# ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ

## БЮЛЕТЭНЬ

КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР ПРЫ ЎДЗЕЛЕ БЕЛСЕЛЬБАНКУ І ЎСЕКАБАНКУ








№ 14 (74)
СЬНЕЖАНЬ

МЕНСК
1928

# ЗЬМЕСТ

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ

ШТОМЕСЯЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

4-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ



№ 14 (74)
СЬНЕЖАНЬ

МЕНСК 1928 г.

Галоўліт № 488, Гомель
Заказ № 1015—1000 экз.
Друк. „Палесдрук“.

# Да дзесяцігодзьдзя БССР

Дзесяць год! Які вялікі, які выключна гэраічны шлях пройдзены за гэты час! Дзесяць год існаваньня Савецкай Беларусі. Гэта дзесяць год найвялікшае, нябачанае яшчэ ў сьвеце барацьбы і будаўніцтва рабоча-сялянскіх мас за права на жыцьцё, за права быць гаспадарамі і арганізатарамі свайго быту, свае рабочае дзяржавы.

У цеснай неразрыўнай сувязі з рабоча-сялянскімі масамі ўсяго Савецкага Саюзу рабочыя і сяляне Беларусі прайшлі гэты шлях барацьбы і перамогі, шлях зруйнаваньня ўсяго старога, усяго непатрэбнага, шлях будаўніцтва новае яшчэ нябачанае ў сьвеце дзяржавы. Краіны капіталізму, краіны эксплёататарскія—гэтыя „культурнейшыя з культурных" і „цывілізаваныя з цывілізаваных" краіны—абвінавачваюць нашу савецкую Беларусь, разам з усім СССР, у някультурнасьці, у дзікасьці і тысячах іншых заган і злачынстваў. Нашы цывілізаваныя і „культурныя" суседзі, што ні год, вяшчуюць сьмерць нашае Савецкае Дзяржавы.

Нам ужо не прывыкаць да гэтых „культурнейшых кампліментаў" аб нашай някультурнасьці, нам не прывыкаць да гэтага варожага карканьня аб нашым заняпадзе. Мы прывыклі да гэтага вою галасоў, мы не баімся іх, мы будзем працаваць, мы будзем ісьці ўсё ўперад і ўперад, ўсё хутчэй і хутчэй па шляху будаўніцтва нашае дзяржавы, па шляху будаўніцтва пасацыялізму. Няхай мы яшчэ і дужа бедныя, няхай ў нас няма яшчэ пакуль небаскробаў—мэтрапалітэнаў і мільёнаў аўтамабіляў, хай някультурныя і зруйнованыя нашыя дарогі, няхай нават няпісьменныя вялікія масы нашага насельніцтва, хай ўсё гэта так, мы ведам лепш, чым хто-небудзь, свае слабыя бакі, свае недахопы.

Гэтыя слабыя нашыя бакі, гэтыя нашыя недахопы зьяўляюцца спадчынаю праклятага царызму, праклятага капіталістычнага ладу, назаўсёды зьнішчаных рабоча-сялянскімі масамі нашага Савецкага Саюзу. Мы ведаем гэтыя нашыя недахопы, гэтую нашую агульную адсталасьць, але ў той-жа час мы маем усё магчымасьці для таго, каб хутка і рашуча, наколькі гэта магчыма, пазбавіцца ад іх.

Настойлівасьць, воля і жаданьні рабочых і сялян Савецкае Беларусі, як і ўсяго Савецкага Саюзу, натолькі вялікія і нявычарпаныя, а гэта асноўная дамінуючая сіла тэмпаў росту, тэмпаў будаўніцтва нашае краіны. Тэмпы гэтыя, як гэта паказаў вопыт існаваньня савецкіх краін побач з капіталістычнымі, ня толькі дазволяць дагнаць іх ва ўсіх галінах і баках жыцьця і гаспадаркі, але і перагнаць і пакінуць ззаду.

Маладая, выключна бедная па сваіх эканамічных рэсурсах, выключна адсталая, у выніку царскае русіфікатарскае палітыкі, у агульным узроўні культурнага разьвіцьця свайго насельніцтва, як з боку агульнае пісьменнасьці гэтага насельніцтва, так і культурна-нацыянальных дасягненьняў, якая перапспытала выключна вялікія зруйнаваньні ў сваёй народнай гаспадарцы—Савецкая Беларусь за першыя гады свайго існаваньня мае вялізарныя дасягненьні, якіх ніколі ня было ў праклятыя часы старое Расіі.

Мы маем вялізарны рост прамысловасьці ня толькі ў справе адбудаваньня прадпрыемстваў, якія існавалі, але і ў пабудове цэлага шэрагу

новых больш магутных прадпрыемстваў. Уклады ў нашу прамысловасьць за адзін толькі бягучы год перавышаюць усе ўклады, якія былі толькі наогул у дарэвалюцыйнай Беларусі.

Наша сельская гаспадарка, якая вялася выключна адсталымі і дапатопнымі мэтадамі, вышла на шырокую дарогу масавага ўжываньня навуковых мэтадаў гаспадараньня, якія ламаюць трохпалёўку, павялічваюць травасеяньне, разьвіваюць трудаёмкія і тэхнічныя культуры, мяняюць саху на ўдасканалены плуг і складаныя сельска-гаспадарчыя машыны. Наша сельская гаспадарка ўзышла ня толькі на шлях усіх гэтых мерапрыемстваў, якія даюць большы ўраджай і падымаюць наогул дабрабыт нашае вёскі,— але на шлях больш глыбокай і каранное рэарганізацыі сваёй гаспадаркі, гаспадаркі адзінаасаднае, шляхам пераводу іх на калектыўныя формы арганізацыі (саўгасы, калгасы і камуны), якія набываюць усё большае і большае значэньне ў агульнай сельска-гаспадарчай сыстэме нашае краіны.

Наша каапэрацыя, разрозьненая, неразьвітая, якая налічвала ўсяго толькі асобныя дзесяткі раскіданых ячэек, на сёньня зьяўляецца рашучаю сілаю ў цэлым шэрагу галін нашае гаспадаркі. Пытаньні арганізацыі таваразвароту, выцясьненьня прыватніка ў значнай частцы ўжо вырашаны. Больш чым $^2/_3$ часткі звароту рэспублікі знаходзіцца ў руках каапэрацыі, і кожны дзень дае ўсё большае і большае разьвіцьцё гэтага таваразвароту ў рэчышча каапэрацыі. Машынізацыя і індустрыялізацыя сельскае гаспадаркі ўцягнута ў каапэрацыйнае рэчышча і магутна разгортваецца з каждым годам. Крэдытаваньні сельскае гаспадаркі, у асаблівасьці сельскае беднаты, уцягненьне беднаты ў каапэрацыю—усё гэта мае вялізарныя вынікі.

А дасягненьні нацыянальнага парадку! Наша мова, нашыя школы, нашая маладая, якая хутка расьце, літаратура—усё гэта кажа аб вялізарнейшым выключным росьце нашае краіны, Савецкае Беларусі.

Дзень дзесяцігодзьдзя Беларусі супадае з фактам выключнага значэньня, які гаворыць аб кукьтурным уздыме і росьце краіны. Гэта факт адчыненьня Беларускае Акадэміі Навук. Ня трэба гаварыць і даказваць аб вялізарным значэньні гэтага факту. Наша „бедная“, наша „малакультурная“ Беларусь шуміць, бурліць ва ўсіх кутках сваіх абшараў. Гэты шум, гэтае бурленьне—усё гэта зьяўляецца вялікім творчым шумам разбуджаных кастрычнікавай рэвалюцыяй мільёнаў рабоча-сялянскіх мас, якія ўзяліся за вялікую справу будоўлі савецкае рабочае дзяржавы.

Разам з рабоча-сялянскімі масамі Савецкага Саюзу, як частка гэтага вялікага саюзу савецкіх дзяржаў, расьце і мацнее наша Беларусь, расьце і мацнее будаўніцтва сацыялізму.

У шуме і грыхатаньні гэтага будаўніцтва, у агні і гарэньні гэтае гіганцкае работы па стварэньні сацыялістычнае гаспадаркі нам ня страшны клікуны з лягэру „цывілізаваных“ эксплёататараў.

„Някультурны“ савецкі народ ведае сваю справу, любіць яе, здолее ў любую хвіліну штыкамі чырвонай арміі абараніць яе, так як здолее давесьці сваю справу да таго дню, калі да Савецкае Беларусі і савецкіх рэспублік усяго наша Савецкага Саюзу далучацца новыя братэрскія савецкія рэспублікі, якія закладуцца на руінах краін капіталістычнага ўціску.

М. Ж.

# Перавыбары саветаў і каапэрацыя

Па ўсяму Саюзу ССР з 1 сьнежня пачынаюцца перавыбары саветаў, і сыстэма сельска-гаспадарчай каапэрацыі, як адна з форм грамадзкасьці на вёсцы, павінна прыняць у гэтай кампаніі самы дзейны ўдзел, т. як ад работы ўсяго савецкага апарату залежыць тэмп і якасьць работы і каапэрацыйнага апарату.

Перавыбары саветаў, на падставе ўдзелу ў іх аграмадных мас насельніцтва, характэрызуюцца агульным ажыўленьнем дзейнасьці як самаго насельніцтва, так і нанова абранага апарату, а гэта ў сваю чаргу значыць і ажыўленьне работы каапэратыўных арганізацый.

У ўмовах тае клясавае барацьбы ,якая існуе на вёсцы; пры многалікавых спробах кулацкіх слояў вёскі пранікнуць у дзяржаўны і каапэрацыйны апарат, роля каапэрацыі ў арганізаваным удзеле ў правадзімых справаздачнай і перавыбарнай кампаніях значна павялічваецца і ўскладняецца.

Замерам кулакоў пранікнуць у аппарат павінен быць наўпроціпастаўлен моцна збудаваны блок беднаты з сераднякамі, а адгэтуль, як вынік, задача каапэрацыйных арганізацый зьвярнуць самую сур'езную ўвагу на арганізацыю і ўсямернае ўзмацненьне груп беднаты пры каапэратывах.

Групы беднаты павінны ў застаўшыся час да пачатку перавыбараў разьвіць інтэнсыўную працу сярод каапэраванага і некаапэраванага насельніцтва па агітацыі за ўдзел бядняцкай і серадняцкай часткі сялянства ў праводзімых перавыбарах саветаў.

Групамі беднаты павінны быць падрыхтованы дастойныя кандыдаты з бядняцкай часткі вёскі ў склад саветаў, а таксама забясьпечана поўная падтрымка серадначеству ў праведзеньні ім у саветы лепшых іх прадстаўнікоў.

Дзейнасьць груп беднаты павінна разгортвацца пад знакам узгадненасьці с агульна-вясковымі бядняцкімі групамі і калгасамі, у большасьці сваёй аб'яднаючымі прадстаўнікоў бядняцкае часткі сялянства.

Перавыбарная кампанія саветаў, праходзячы пад вуглом праверкі становішча госапарату і на падставе шырока разгорнутае самакрытыкі, ускладае на каапэрацыйную сыстэму шэраг абавязкаў па прыняцьцю ўдзелу ў справе выяўленьня недахопаў і бюракратызму госапарату, якія стаяць тормазам на шляху больш хуткага ўзмацненьня і росту каапэрацыі. Выяўленыя ў працэсе практычнай работы каапэрацыі недахопы ў рабоце дзяржапарату і ненармальныя ўзаемаадносіны павінны быць на справаздачных сходах саветаў адкрыты і ўлічаны для адхіленьня іх у будучай працы нанова абраных саветаў.

Побач з гэтым трэба адзначыць, што і каапэрацыйны апарат, будучы непазбаўлены недахопаў і бюракратызму, павінен быць пастаўлен пад абстрэл насельніцтва, для чаго каапэратыўныя арганізацыі, па ўзгадненьню с мясцовымі савецкімі органамі, павінны ставіць даклады аб сваёй працы, дасягненьнях, недахопах, характарыстыке ўзаемаадносін, ступені і якасьці дапамогі каапэрацыі з боку савецкіх органаў і г. д.

Карыстаючыся правядзеньнем кампаніі перавыбараў саветаў, каапэратыўныя арганізацыі павінны ўсебакова высьветліць пытаньне аб той дапамозе, якую ўчыняе каапэрацыі савецкая ўлада на вёсцы і якая накіравана на больш поўнае каапэраваньне і абслугоўваньне бядняцка-серадняцкае часткі насельніцтва.

Пытаньні дапамогі беднаце (фонд каапэраваньня беднаты, ільготы ў крэдытаваньні, снабжэньні і кантрактацыі) павінны быць асабліва поўна

высьветлены і паслужыць довадам каапэраванаму і некаапэраванаму насельніцтву, што далейшае разьвіцьцё і ўзмацненьне сел.-гасп. каапэрацыі будзе залежыць ад далейшага ўзмацненьня савецкай дзяржавы і максымальнага ўдзелу ў яго штодзённай працы ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства.

Сыстэма сел.-гасп. каапэрацыі павінна ахапіць усю кампанію перавыбараў саветаў: як удзел у справаздачных сходах, так і самых перавыбарах, пры чым у дзейнасьці сваёй каапэрацыйныя арганізацыі павінны кіравацца ўказаньнямі выбарчых камісій.

Дапамога і ўдзел каапэратыўных арганізацый у справе правядзеньня перавыбараў саветаў будзе складацца з наступных канкрэтных мерапрыемстваў.

1. Найхутчэйшая ўвязка каапэратыўных арганізацый з выбарчымі камісіямі і распрацоўка сваіх плянаў працы на грунце плянаў выбарчых каміссій, пры чым пляны гэтыя, зьяўляючыся падсобнымі плянамі, намечаюць канкрэтна, што павінна тая ці іншая каапэратыўная арганізацыя зрабіць у пэрыод правядзеньня справаздачна-перавыбарнай кампаніі саветаў і на падставе распрацованых плянаў даць адпаведныя ўказаньні на месцы аб удзеле іх у правадзімай кампаніі.

2. Прыняць меры да ўсямернага ажыўленьня дзейнасьці груп беднаты пры каапэратывах; разьвіваць усімі мерамі і спосабамі агітацыю сярод пайшчыкаў за поўны ўдзел у справаздачаных і перавыбарных сходах бядняцка-серадняцкае часткі каапэраванага насельніцтва, а таксама членаў іх сямейств і членаў калгасаў.

3. Па ўзгадненьню з мясцовымі савецкімі органамі ставіць даклады каапэрацыйных арганізацый аб праведзенай працы с пункту погляду выяўленьня недахопаў і дасягненьняў, а таксама той дапамогі, якую аказваюць савецкія органы каапэрацыі, і тых перашкод, якія стаяць на шляху разьвіцьця каапэратыўнага будаўніцтва.

4. Сель.-гасп. каапэратыўныя арганізацыі на пэрыод правядзеньня перавыбараў саветаў павінны прадстаўляць у распараджэньне выбарчых каміссій сваіх работнікаў, а таксама і раз'яздных інструктароў.

Гэтыя і цэлы шэраг другіх форм удзелу каапэрацыі ў перавыбарах саветаў, павінны быць скарыстаны ёю ў самым поўным разьмеры, бо пасьпяховасьць правядзеньня справаздачна-перавыбарнай кампаніі будзе сведчыць аб разьмерах таго грамадзкага значэньня, якое займае сел.-гасп. каапэрацыя ў вёсцы, і наколькі яна падрыхтавана да арганізацыі шырокіх бедняцка-серадняцкіх мас сялянства.

---

Аксючыц

# Падвышэньне ўраджайнасьці і сельска-гаспадарчая каапэрацыя.

Пытаньне аб тым, што ўраджайнасьць нашае сельскае гаспадаркі зьяўляецца надзвычайна нізкай, ужо дастаткова высьветлена і ўсімі прызнаецца.

Пагэтаму нам трэба цяпер заняцца практычнаю працай па ўздыму ўраджайнасьці ў сельскай гаспадарцы. Сыстэма сельска-гаспадарчае каапэрацыі зьяўляецца адной з асноўных арганізацый, якая павінна практычна займацца вырашэньнем гэтае справы, пагэтаму на яе кладзецца вялікая адказнасьць у справе па ўздыму ўраджайнасьці.

Для таго, каб сыстэма тыя задачы, якія на яе ўскладзены, магла выконваць, нам папярэдне трэба падрыхтавацца арганізацыйна і яскрава ўявіць сабе тое, што павінна сыстэма сельска-гаспадарчае каапэрацыі рабіць у гэтым напрамку.

Галоўнаю галінаю працы, якую трэба праводзіць сыстэме сельска-гаспадарчай каапэрацыі, па нашай думцы, зьяўляецца наступнае. Першае— гэта машынізацыя сельскай гаспадаркі. Што апрацоўка глебы машынай значна падвышае ўраджайнасьць, гэта справа вядомая. Тут можна ў якасьці прыкладу прывесьці розныя плугі, якія добра распрацоўваюць глебу, радковую сеялку, якая ня высушвае глебу, добра і роўнамерна распаўсюджвае насеньне і патрабуе яго менш на гэктар, чымся ручныя засевы, зернаачысьцільныя машыны, якія даюць магчымасьць атрымаць чыстае ад сьмецьця насеньне для засеву і г. д.

Адсюль задача—даць сельскай гаспадарцы магчыма больш машын і прыладаў належнае якасьці. Гэтая справа наконт колькасьці і якасьці машын у большай ступені залежыць ад нашае прамысловасьці. Але-ж, каб прамысловасьць ведала колькі і якіх машын патрэбна сельскай гаспадарцы, гэтай справай павінна займацца сельска-гаспадарчая каапэрацыя, якая павінна выявіць, колькі і якіх машын нам патрэбна, а потым прасунуць гэтыя машыны на вёску. Але-ж калі мы падыходзім практычна да ажыцьцяўленьня гэтага мерапрыемства, дык наглядаем шэраг перашкод у гэтым напрамку.

Па-першае, ня ў кожнай гаспадарцы знойдуцца сродкі для набыцьця машын, па-другое, буйныя машыны ў паасобнай сялянскай гаспадарцы ня знойдуць поўнае нагрузкі, будуць для гаспадаркі стратнымі, асабліва для бядняцка-серадняцкай, па-трэцяе, працы буйнай машыны перашкаджае вузкапалосіца. У некаторых выпадках ужываньне машын пры сучасных формах землякарыстаньня і зусім не магчыма, ды і нельга мець думкі, каб на працягу бліжэйшых гадоў даць кожнай гаспадарцы па складанай машыне: сеялцы, трыеру, малатарцы, трактару і г. д.

На гэта не хапіла-б ні сродкаў для вытворчасьці машын, ні магчымасьці даць гэту машыну бядняцка-серадняцкай гаспадарцы ў крэдыт, пагэтаму правільным вырашэньнем гэтага пытаньня з арганізацыйнага боку зьяўляецца масавая арганізацыя машынных таварыстваў.

Іншага больш пэўнага і масавага шляху для шырокае машынізацыі сельскае гаспадаркі няма. Адсюль на арганізацыю машынае сеткі і ўкамплектаваньне яе машынамі павінна быць зьвернута асаблівая ўвага.

Другая ўстаноўка ў машыназабясьпячэньні, якую трэба зрабіць, гэта павышэньне ў агульным пляне машыназабеспячэньня проценту машын агрыкультурнага значэньня: культурных плугоў, сеялак, трыероў, сартыровак і г. д. Гэтыя машыны дадуць большую эфэктыўнасьць, а адсюль вынік, што сельска-гаспадарчая каапэрацыя павінна быць ня толькі простым прадаўцом машын селяніну, а і арганізацыяй, якая павінна навучыць селяніна, якая машына больш падыходзіць для нашае сельскае гаспадаркі.

Другая асноўная задача ў працы сельска-гаспадарчай каапэрацыі па падвышэньню ўраджайнасьці—гэта насенная справа. Пасеў ачышчаным насеньнем можа, як гэта сьведчыць агранамічная практыка, павысіць ураджай на 20 проц., а пасеў гатунковым насеньнем яшчэ больш.

Пагэтаму ў адносінах зернаачысткі трэба ўзяць больш рашучы тэмп, чымся ён быў да гэтага часу. Уся сельска-гаспадарчая крэдытная сетка, насеньняводныя таварыствы, калетыўныя гаспадаркі і машынныя таварыствы абавязкова павінны набыць поўны камплект зернаачысьцільных машын для здавальненьня насеньняачысткі сваіх пайщчыкаў.

Там, дзе забясьпечанасьць машынамі для зернаачысткі ўжо ёсьць, трэба ставіць пытаньне так, каб чысьцілі насеньне не паасобныя сялянскія двары, а выносіць пастанову на сходах вёсак і цэлых вобчастваў, каб ніводнага пуда зерня ня было ўкінута ў глебу без ачысткі, і за парушэньне гэтых пастаноў устанаўліваць адказнасьць на гэтых жа сходах. Абавязваць усё насельніцтва вёскі спаліваць усё сьмяцьцё на палёх і абкашываць

межнікі. Ініцыятарамі такіх сходаў і вынясеньня пастаноў павінен быць наш каапэрацыйны актыў пайшчыкаў, упаўнаважаныя і члены савету.

Пытаньне аб забесьпячэньні гаспадарак гатунковым насеньнем упіраецца ў недахват яго. Тут справа стаіць аб большым разгортваньні насеньняводнае справы. Але-ж усё такі пакуль што мы будзем мець абмяжованую колькасьць гатунковага насеньня, а таму, па нашай думцы, трэба пераглядзець практыку нашае працы па насеньнязабесьпячэньню, як мы яе вядзем да гэтага часу. Ці добра, калі гатункова-насенны матар'ял раскідваецца па акрузе, даецца ва ўсе раёны і сельсаветы, інакш кажучы, ужываецца „ураўнілаўка"?

Пры такім спосабе распаўсюджваньня гатунковага матар'ялу, ён мяшаецца са сьмяцьцём, са звычайным насенным матарыялам і страчвае сваю якасьць як гатунковага матар'ялу. Праца з гатунковым насеньнем павінна вясьціся строга гнездавым парадкам, а для гэтага трэба брать у акрузе некалькі вёсак ці вобчастваў і тут весьці пасеў гатунковым матар'ялам да поўнага пераводу ўсіх сялянскіх двароў на пасеў гатунковым насеньнем, і, калі гэты раён будзе задаволен, дык трэба брацъ каля яго суседні. Пры адзначаным спосабе ня будзе засьмяценьня гатунковага насеньня, мы будзем мець раёны з чыста гатунковымі пасевамі, адкуль у далейшым часе можна будзе браць гатунковы матар'ял для распаўсюджваньня.

Для пашырэньня збожжаачысткі трэба ў раёнах, дзе насельніцтва забясьпечана насеннаачышчальнымі машынамі, уводзіць большую градацыю ў аплаце зарыхтоўваемага каапэрацыяй збожжа за павышаную і паніжаную яго якасьць.

Трэцяя галіна працы каапэрацыі па ўздыму ўраджайнасьці—гэта кантрактацыя пасеваў. Гэтае мерапрыемства наддае адзін з самых галоўных спосабаў узьдзейнічаньня на сельскую гаспадарку, як у адносінах уздыму ўраджайнасьці, гэтак і магчымасьці поўнае яе рэарганізацыі. Кантрактацыя ў 1928 годзе ахапіла каля 70.000 гаспадарак, а на будучы год мяркуецца ў гэту працу ўцягнуць каля 100.000 гаспадарак.

Але праводзячы гэтую працу ў мінулым годзе, мы не зрабілі кантрактацыю рэарганізуючым пачаткам у сельскай гаспадарцы, бо мы яе праводзілі, не патрабуючы з боку сялянства амаль што ніякіх абавязкаў агрыкультурнага зьместу. У далейшай нашай працы па кантрактацыі пасеваў трэба зыходзіць ня толькі з таго, каб атрымаць ад селяніна тую ці іншую сыравіну, альбо збожжа, вядома, што нам і гэта патрэбна рабіць, бязумоўна трэба ставіць пытаньне так, каб селянін на тыя грошы, якія мы яму даём, здаў поўнасьцю тую прадукцыю, на якую ён заключыў умову. Але нам трэба ставіць пытаньне галоўным чынам і так, каб пасяўшчыкоў абавязваць па дагавору выконваць у сваёй гаспадарцы шэраг мерапрыемстваў, як па кантрактуемай культуры, гэтак і наогул па ўсёй гаспадарцы, якія-б вялі да падвышэньня ўраджайнасьці; пасеў ачышчаным насеньнем, раньняя ўспашка, устанаўленьне севазвароту і г. д. З другога боку, сельска-гаспадарчая каапэрацыя павінна забясьпечваць кантрактатараў неабходнымі сродкамі вытворчасьці.

Такім чынам, дзякуючы кантрактацыі, шляхам заключэньня ўмоў з цэлымі пунктамі паселішчаў, мы здолеем ужываць усе тыя мерапрыемствы, якія вядуць да падвышэньня ўраджайнасьці, а гэтак справу ставіць перад селянінам можна і неабходна, бо ўсе гэтыя мерапрыемствы ставяцца толькі для таго, што яны карысны як для самога селяніна, так і для дзяржавы наогул.

Вельмі вялікую ролю ў справе падвышэньня ўраджайнасьці павінна адыгрываць малочная прамысловасьць. Арганізаваная ў раёне малочная арцель ставіць у неабходнасьць увядзеньне ў гаспадарку сеяных траў, устанаўленьне правільнага севазвароту, а як вядома севазварот, правільна

арганізаваны, вядзе да падвышэньня ўраджаю. З другога боку, паляпшэньне кармадабываньня дае магчымасьць лепш карміць жывёлу і больш яе мець, што ў сваю чаргу вядзе да атрыманьня больш угнаеньня і адсюль большага ўраджаю.

Але да гэтага часу ў галіне малочнае справы, і асабліва жывёлагадоўлі, малочнай каапэрацыяй зроблена надзвычайна мала. Мы малочных заводаў і пунктаў ужо пабудавалі многа, але яны амаль усе ня маюць поўнае нагрузкі. А справа ў тым, што да апошняга часу малочная каапэрацыя будавала сваю працу, калі так можна выказацца, на беднасьці сялянскай гаспадаркі, гэта значыць, на заносе малака беднай гаспадаркай ад дрэннае каровы шляхам недаяданьня.

У далейшым гэта справа так разьвівацца ня можа, бо ў сучасны момант селянін, дзякуючы розным мерапрыемствам, якія праводзяцца савецкаю ўладай на вёсцы, паляпшае сваё матар'яльнае становішча і хутка падвышае сваю пакупную здольнасьць.

Каб гэтага не здарылася, трэба справу арганізаваць так, каб селянін меў лішкі малака і меў патрэбу ў яго збыце. А гэта можна зрабіць толькі пры колькасным і асабліва якасным падвышэньні жывёлы. Да таго часу, пакуль мы не пачнем працу па паляпшэньню жывёлы, па паляпшэньню догляду за ёю, утрыманьня і харчаваньня яе, грунтоўнае базы да разьвіцьця малочнае базы ў нас ня будзе. Кантрольна-асыстэнцкую працу трэба пасунуць уперад. Малочна жывёлаводныя таварыствы (кожнае ў паасобку, ці групы) павінны трымаць у сябе кантроль-асыстэнта і вясьці працу па паляпшэньню жывёлы.

Зусім бясспрэчнае пытаньне аб буйным значэньні ўжо існуючых калгасаў, а таксама і калектывізацыі вёскі наогул у падвышэньні ўраджайнасьці. Тут трэба зрабіць дзьве асноўных устаноўкі. Па-першае, больш сьмялей пашыраць сетку і галоўным чынам працаваць над арганізацыяй буйнае калектыўнае гаспадаркі і, па-другое, адразу-жа патрабаваць ад калгасаў вядзеньня сельскае гаспадаркі па новаму з ужываньнем прыёмаў сучаснае высокае тэхнікі і агранамічнае практыкі, дапамагаючы ім у гэтай справе як з боку арганізацыі самой гаспадаркі, так і забесьпячэньня калгасаў сродкамі вытворчасьці.

Вось тыя галоўныя галіны працы ў сыстэме сельска-гаспадарчай каапэрацыі па ўздыму ўраджайнасьці, на якія павінна быць накіравана ўвага як каапэрацыйнага апарату, так і каапэрацыйнае грамадзкасьці.

Для таго, каб гэтыя задачы выканаць, нам трэба аддаць час сталаму падбору каапэрацыйнага апарату, бо калі надзвычайна цяжка ўзьнімаць ураджайнасьць сярод агранамічна няпісьменнага вясковага насельніцтва, то тым больш гэту працу праводзіць як належыць будзе немагчыма з агранамічна-няпісьменным каапэрацыйным апаратам.

Нам трэба паставіць перад сабою задачу, асабліва ў нашай с.-г. крэдытнай сетцы, у самой нізоўцы, каб мець магчымасьць вясьці агрыкультурныя мерапрыемствы праз каапэрацыю ў сельскай гаспадарцы, а таксама і правільна праводзіць забесьпячэньне сельскае гаспадаркі сродкамі вытворчасьці, нам трэба мець ужо ў апараце нізоўкі, калі не аграномаў, дык абавязкова людзей больш менш агранамічна пісьменных. А для гэтага патрэбна заняцца як належным падборам апарату, гэтак і правядзеньнем цэлага шэрагу курсаў па яго вывучэньні.

І апошняе гэта тое, якія б мерапрыемствы зямельныя органы і с.-г. каапэрацыя ні вызначалі ў галіне падвышэньня ўраджайнасьці, яны могуць зьвясьціся ні да чаго, калі аб іх ня будзе ведаць шырокая сялянская маса, калі селянін не зразумее і ня будзе ведаць, якую карысьць дадуць гэтыя мерапрыемствы.

Тут справа ўпіраецца ў някультурнасьць нашае вёскі. Мы да гэтага часу ў гэтым напрамку зрабілі надзвычайна мала; трэба паставіць пытаньне аб самым шырокім распаўсюджваньні таннае літаратуры па сельскай

гаспадарцы і каапэрацыі, толькі тады мы здолеем спадзявацца, што агранамічныя мерапрыемствы дойдуць да самае гаспадаркі селяніна і дадуць свой эфэкт, бо, на мой погляд, усе агранамічныя мерапрыемствы нашы аграномы ці каапэрацыйныя інструктары ня змогуць перадаць усяму насельніцтву ў вуснай форме, і іх для гэтага надзвычайна мала. Яны могуць даць агульны напрамак гэтым мерапрыемствам, але зрабіць гаспадароў агранамічна пісьменнымі яны ня могуць.

Пагэтаму сыстэма с.-г. каапэрацыі павінна штогодна рабіць адлічэньні на культурна-асьветную працу і на гэтыя сродкі распаўсюджваць літаратуру, шляхам заказаў ад пайшчыкаў на выпіску газэт, часопісаў, брашур, а ў некаторых выпадках выпісваць літаратуру і для гандлю.

Пры самых жа таварыствах павінны быць арганізаваны бібліатэчкі па сельскай гаспадарцы, дзе-б пайшчыкі змаглі браць літаратуру для карыстаньня.

---

А. Дубіна

# Ад колькасьці да якасьці ў крэдытаваньні сельскае гаспадаркі

З тых матар'ялаў, якія маюцца, можна бачыць, што па некаторых акругах Беларусі выдаецца дробны крэдыт развёрстачнага характару. Гэты крэдыт распыляецца і не дае належнае эфэктыўнасьці за кошт укладаньняў крэдытных сродкаў з боку дзяржавы ў сельскай гаспадарцы.

Потым, ёсьць выпадкі трусьлівага падыходу пры крэдытаваньні беднаты. Некаторыя працаўнікі сел.-гасп. крэдытных таварыстваў, выдаючы крэдыт бедняку, пры магчымасьці здаволіць яго поўнасьцю імкнуцца ўрэзаць яму крэдыт, лічачы, што ён усёроўна яго ня зьверне. Такім чынам, крэдыт не здавальняе тыя запатрабаваньні, якія неабходны для ўзмацненьня і разьвіцьця бядняцкае гаспадаркі. Пры чым, ёсьць таксама шэраг выпадкаў, калі атрыманыя крэдыты для крэдытаваньня сельскае гаспадаркі затрымліваюцца ў тавараздвароце крэдытнымі таварыствамі і выдаюцца са спазьненьнем.

Вось гэтыя тры моманты зьяўляюцца асноўнымі недахопамі ў нашай крэдытнай працы і кепска адбіваюцца на вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы.

Тлумачыцца гэта тым, што да гэтага часу яшчэ няма гаспадарчага парадку ў крэдытаваньні сельскае гаспадаркі, няма разуменьня, што крэдыт трэба ня толькі выдаць, але трэба і наглядаць, на што даецца крэдыт, якую карысьць ён прынясе ў гаспадарцы і наколькі гэты крэдыт будзе прадукцыйным, бо наш крэдыт не сабезаўскі, а павінен быць выключна вытворчым крэдытам, пры дапамозе якога мы перабудоўваем сельскую гаспадарку на новую больш інтэнсыўную сацыялістычную сельскую гаспадарку.

Пры гэтым неабходзен больш дасканалы клясавы падыход. Крэдытуючы беднякоў і серадня коў, мы ні ў якім разе не павінны выдаваць грошы ў крэдыт кулацкім гаспадаркам, бо калі мы будзем выдаваць крэдыт кулакам, то гэтым самым мы будзем дапамагаць кулаку эксплёатаваць беднату. Зараз трэба ня толькі проста крэдытаваць, а самым уважлівым чынам вывучаць усе прапановы, зьвязаныя з крэдытаваньнем, каб добра ведаць, як лепш, як больш правільна і мэтазгодна накіроўваць грошы, каб сапраўды мець рэальныя вынікі, мець вытворчы ўплыў на рэконструкцыю і падняцьце ўраджайнасьці за кошт крэдытных укладаньняў.

Драбленьне пазык, якое практыкавалася ў мінулыя гады, а часам практыкуецца і зараз, каб здаволіць усіх хоць часткова, няўважлівыя

адносіны да тэрмінаў пазычак, выдача часам кароткатэрміновых пазык бядняцкай гаспадарцы на папаўненьне яе асноўных капіталаў, няўлічваньне сэзонаў рыначнасьці гаспадаркі і г. д. ня могуць зараз мець месца ў нашай працы.

Рэканструкцыя сельскае гаспадаркі вымагае больш дасканалага вывучэньня кожнае часткі абслугаванага сел.-гасп. крэдытам вучастку. Комплексны мэтад крэдытаваньня, абагуленьне сельскае гаспадаркі, разьмер і тэрмін пазыкі для кожнага мерапрыемства—усе гэтыя пытаньні зараз усё больш і больш становяцца ў цэнтры нашае крэдытнае працы.

На жаль, трэба адзначыць, што да сёньняшняга дню пытаньні дробнага сел.-гасп. раёнаваньня і ўстанаўленьня асноўных тэндэнцый іх разьвіцьця яшчэ не распрацаваны належнымі органамі і навукова-дасьледчым інстытутам сельскай гаспадаркі, між тым распрацоўка іх дала-б больш магчымасьці распрацаваць комплексны мэтад абслугоўваньня крэдытам гэтых вучасткаў нашае працы.

Але ня гледзячы на гэта, мы павінны распрацаваць і ўстанавіць у больш шырокім памеры, чымся зараз, спрошчаныя формы і мэтады комплекснага крэдытаваньня, устанавіць канкрэтна разьмеры і ўмовы крэдытных укладаньняў, каб атрымаць лепшую эфэктыўнасьць у сельскай гаспадарцы, як па абграмаджаным сэктары, так і па асобных гаспадарках. Праўда, за апошні год у гэтай справе мы маем дасягненьні. У сярэднім кожная сялянская гаспадарка, якой выдалі крэдыт, у 1926-27 г. атрымала 40 руб., а ў 1927-28 г.—60 руб.

У гэтым 1928-29 г. мы ўкладаем у сельскую гаспадарку 26.780.000 р., г. зн. на 49,7 проц. больш супроць фактычных укладаньняў у 1927-28 г. Пры чым, доўгатэрміновага крэдыту ўкладаем 19.200.000 руб., ці 71,3 проц. агульнае сумы. З гэтае сумы мы накіроўваем на саўгаспадаркі, калгаспадаркі і вытворчыя аб'яднаньні сел.-гасп. каапэрацыі 13.000 руб. Усяго па абграмаджаным сэктары накіроўваецца 15.000.000 руб. Гэта гаворыць аб тым, што пастанова XV зьезду камуністычнае партыі выконваецца поўнасьцю.

Вось якія задачы стаяць зараз перад сыстэмай сел.-гасп. крэтыту: 1) узмацненьне рэконструкцыйных працэсаў, шляхам інтэнсыўнага праводзеньня земляўпарадкаўчых і мэліарацыйных работ; 2) найбольш шпаркі тэмп у абграмаджваньні сел.-гасп. вытворчасьці праз арганізацыю калгаспадарак і розных іншых вытворчых аб'яднаньняў; 3) максымальнае падвышэньне ўраджайнасьці глебы і падвышэньне якасьці жывёлагадоўлі; 4) узмацненьне пераапрацоўкі сел. гасп. прадуктаў праз пабудову спрошчаных індустрыяльных прадпрыемстваў і 5) пашырэньне сел. гасп. экспарту і стварэньне больш моцнае сыравіннае базы для прамысловасьці. Рэсурсы нашага крэдытнага пляну ў гэтай справе могуць нас забясьпечыць, і яны павінны нас забясьпечыца. Трэба толькі гаспадарча падыйсьці да правільнага скарыстаньня гэтых дзяржаўных сродкаў. Трэба, каб яны былі скарыстаны на вытворчыя мэты, на мэты, прадугледжаныя плянамі.

Выдача крэдыту на адну мэту часта павінна цягнуць за сабою адначасова і выдачу крэдыту на другую мэту той жа гаспадаркі, каб атрымаць эканамічны эфэкт. Так, даючы гаспадарцы крэдыт на каня і не даючы на набыцьцё плуга, а то і на пабудову хлява, калі такога няма і г. д., мы, напэўна, не даб'емся пажаданых эканамічных вынікаў.

Тое-ж самае можна сказаць і адносна, напрыклад, выдачы крэдыту на пабудову масларобнага заводу. Даць крэдыт толькі на пабудову заводу і адначасова не прапрацаваць пытаньня аб крэдытаваньні справы павялічэньня ліку кароў у ваколіцах заводу, падвышэньня іх якасьці, забясьпячэньня харчамі, даабсталяваньня, уцяпленьня пунь—гэта значыла-б раней знаць, што пажаданых вынікаў мець ня будзем.

Правесьці земляўпарадкаваньне і абмяжавацца тэхнічнай работай каморніка і мэханічнай разьвёрстачнай выдачай крэдыту, не зацікавіўшыся

выяўленьнем разьмеру патрэбных сродкаў для нармальнага разьвіцьця земляўпарадкаваных гаспадарак, гэта значыць выпаўніць фармальна абавязкі чыноўніка і не даць магчымасьці пасёлкам стаць на інтэнсыўны шлях. Між тым не дапамагчы гаспадарча беднаце (земляўпарадкоўваецца па большасьці бедната) і не прыцягнуць да ўдзельнічаньня і дапамогі камітэтаў сялянскай узаемадапамогі значыць таксама наогул ня мець гаспадарчага эфэкту ў пасялковай сыстэме і ў справе калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Вось чаму трэба зрабіць рашучы пералом ад колькаснага распыленьня крэдытных сродкаў да якаснага эфэктыўнага ўкладаньня крэдытаў у сельскую гаспадарку, маючы на ўвазе лёзунг тав. Леніна: „Лепш менш, ды лепш“. Лепш, напрыклад, даць крэдыт пяцідзесяці гаспадаркам, якія адчуваюць патрэбу, ды мець гаспадарчы эфэкт, чымся выдаць гэты крэдыт мэханічна дробнымі сумамі ста гаспадаркам і ня мець ніякае вытворчай карысьці, ніякага эфэкту.

Зразумела, што запатрабаваньне ў крэдыце з боку насельніцтва вялікае, і некаторыя крэдытныя таварыствы і мясцовыя арганізацыі, каб здаволіць гэтыя, патрэбы прымушаны іншы раз драбіць гэты крэдыт. Дзеля гэтага трэба ўзмацніць работу сярод груп бедната і наогул сялянства з боку партыйных арганізацый і каапэрацыйнага актыву па правядзеньню крэдытнае палітыкі па вёсцы і часьцей ставіць даклады крэдытных таварыстваў на сходах беднаты, пленумах сельсаветаў і г. д.

Тады становішча будзе ясным і будзе менш недарэчнасьцяў.

---

**І. Байцоў.**

# Аб фондах доўгатэрміновага крэдытаваньня і запасных капіталах каапэрацыі

У першай палове 1928 году апублікаваны былі два законадаўчыя акты саюзнага ўраду, якія паклалі пачатак абавязковых, сыстэматычных і вызначаных адлічэньняў з прыбытку каапэрацыі.

Па першаму дэкрэту ЦВК і СНК СССР, ад 10 жніўня г. г., каапэрацыйныя арганізацыі абавязаны адлічыць у фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня свае сыстэмы ня менш 5 процантаў ад чыстага прыбытку, пачынаючы з балянсаў на 1/X-1927 г. Па пастанове Эканомнарады БССР, ад 28 мая г. г., у фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня каапэрацыйныя арганізацыі адлічаюць 10 процантаў.

Сродкі гэтага фонду галоўным чынам поўнасьцю ідуць на капітальнае будаўніцтва ўсіх зьвенчакоў тае сыстэмы, якая гэты фонд утварае.

Цэнтрасаюз, Цэрабсэкцыя, Транспасэкцыя, Белкаапсаюз і Белрабсэкцыя ў большасьці выпадкаў на падставе пастаноў сваіх сходаў упаўнаважаных і саветаў сваячасова прапанавалі арганізацыям спажыўсыстэмы абавязкова і без спазьненьня перадаваць на захаваньне ва Ўсекабанк 10 процантаў ад чыстага прыбытку, пачынаючы з 1926-27 апэрацыйнага году.

Усе ячэйкі спажыўсыстэмы, якія маюць прыбытак па балянсах на 1 кастрычніка 1927 году за час з чэрвеня да верасьня г. г. унясьлі ва Ўсекабанк свае 10-проц. адлічэньні, утварыўшы за мінулы год фонд у 126.720 руб.

Згодна п. 1 § 9 палажэньня аб ФДК, якое зацьверджана эканомнарадой Бел 28 мая г. г., да фонду прылічаны процанты, якія належаць ад банку за захаваньне сродкаў фонду, у суме 964 руб. Такім чынам спэцыяльны фонд ДК спажыўсыстэмы па адлічэньнях за 1926-27 год складае суму ў 127.684 руб.

Частка гэтага фонду была скарыстана на крамавае будаўніцтва яшчэ мінулым летам. Асабліва яскрава выявілася дапамога з гэтага фонду ў Лельчыцкім спажыўтаварыстве, Мазырскае акругі, якое было прымушана пабудаваць новую краму замест зьнішчанае пажарам.

Спэцфонд ДК спажыўстэмы Беларусі па адлічэньнях ад прыбыткаў за 1927-28 год значна павялічыцца з прычыны таго, што прыбытак па арганізацыях спажыўсыстэмы ў часе 3 кварталаў гэтага году складае 2462 тыс. руб.

Белкаапсаюзам распрацаваны падрабязны плян на 1928-29 г.—будаўніцтва крам, складаў, хлебазаводаў, сталовых, памяшканьняў для захоўваньня гародніны і г. д. у агульнай суме на 2.180 тыс. руб., пры чым сыстэма да 500 т. руб. думае атрымаць з дзяржаўных сродкаў і блізка што такую суму (450 т. р.) са свайго спэцфонду.

Першапачатковыя арганізацыі, які думаюць будаваць крамавыя памяшканьні наступным летам, павінны загадзя ўзбудзіць хадайніцтва перад сваімі раённымі саюзамі аб выдачы ім пазыкі, падаўшы саюзам свае распрацованыя каштарысы і пляны будаўніцтва. У далейшым усе заявы будуць канцэнтравацца ў Белкаапсаюзе, які ў аддзеле доўгатэрміновага крэдытаваньня каапэрацыі пры Беларускім аддзяленьні Усекабанку зьявіцца прадстаўніком усяе сыстэмы.

У апошні час нават з боку каапэрацыйных сыстэм паўстае пытаньне аб тым, каб Усекабанк быў ня толькі захавальнікам спэцфондаў каапэрацыі, але адначасова і кантралюючым органам у кіраўніцтве сродкамі фондаў.

Неабходна, каб Усекабанк перад выдачай пазыкі, на якое-б ні было будаўніцтва, патрабаваў ад арганізацый матар'ялаў (каштарысаў і плянаў), якія-б яскрава гаварылі, што будзе пабудована, на якую суму, па якому і кім зробленаму пляну, калі пабудова пачынаецца і калі яна павінна скончыцца. Неабходна выявіць у кожным асобным выпадку, з якіх крыніц арганізацыя мае думку атрымаць грошы на пабудову, і ці ўваходзіць гэты будынак у агульны плян будаўніцтва па райсаюзу.

Было-б яшчэ лепш, каб Усекабанк меў магчымасць правераць правільнасьць зьвестак, на колькі дапушчаныя работы, сапраўды, выконваюцца, як арганізацыя нарыхтоўвае будаўнічыя матар'ялы і г. д.

Другі дэкрэт ураду СССР, ад 23 мая г. г., аб парадку складаньня, захаваньня запасных капіталаў вызначае абавязковасьць адлічэньня для кожнае каапэрацыйнае арганізацыі ня менш 10 проц. ад чыстага прыбытку, за выключэньнем сельскае-гаспадарчае крэдытнае і прамыслова-крэдытнае каапэрацыі, ад якіх памер адлічэньняў ня можа быць менш 20 проц., у свой запасны капітал і захаваньня яго ва Усекабанку. (Крэдытныя, с.-г. т-вы і саюзы, якія ўваходзяць у сыстэму сельска-гаспадарчага крэдыту, адлічэньні ўносяць у сельска-гаспадарчы банк).

У выпадку, калі арганізацыямі ня ўносяцца адлічэньні ў запасныя капіталы, сумы спаганяюцца фінансавымі органамі ў бяспрэчным парадку, дапасоўваючы гэта да правіл спагнаньня недаімак па падатках (§ 11 дэкрэту ад 23/V-1928 г.)

Запасныя капіталы па каапэрацыйнаму статуту арганізуюцца ў мэтах складаньня рэзэрву на выпадак неабходнасьці пакрыцьця страт, якія могуць быць па апэрацыях каапэратыву.

Па самой сваёй сутнасьці запасныя капіталы ня могуць быць у звароце арганізацыі, а павінны быць захаваны ў надзейным месцы ў банках.

40 проц. ад узносаў у запасныя капіталы зварочваюцца банкам у дзяржаўныя процантныя паперы, а 60 проц. ідуць на каротка-тэрміновае крэдытаваньне сыстэмы.

Паступленьні ад сыстэм у фонды запасных капіталаў выказваюцца ў наступных лічбах:

| | | |
|---|---|---|
| а) па спажыўсыстэме | 91.767 | руб. |
| б) па с.-г. сыстэме | 2.671 | „ |
| в) па кустпрамсыстэме | 33.341 | „ |
| г) па жыльлёвай сыстэме | 9.277 | „ |
| д) па інваліднай сыстэме | 4.751 | „ |
| е) па паляўнічай сыстэме | 671 | „ |
| Усяго | 141.478 | руб. |

У выпадку скончэньня году са стратай, кожная каапэрацыйная арганізацыя, якая мае ўклады ў запасны капітал за папярэднія гады, мае магчымасьць пакрыць страту з сваіх укладаў, не парушаючы тым свае грашовае роўнавагі.

Часта каапэрацыйныя арганізацыі, праўда іх нямнога, якія маюць прыбытак за 1926-27 год, яшчэ сваіх адлічэньняў у запасны капітал у банк не ўняслі, аб чым паведамлена органам НКФ Бел. для ўздзейнічаньня мерамі прымусовага характару (§ 11 дэкрэту, ад 23/II-1928 г.).

У процілегласьць арганізацыям, якія не ўнясьлі адлічэньняў у запасныя капіталы з прыбыткаў 1926-27 году, трэба адзначыць дзьве арцелі інвалідаў—Менская № 15 «Усход» і Капыльская арцель № 10 «Баявік», якія ўжо ўнесьлі свае адлічэньні ў запасныя капіталы і фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня з прыбыткаў 1927-28 г.

Пастаноўку справы ў гэтых арцелях можна лічыць ідэяльнай. Каб усе каапэрацыйныя арганізацыі, па прыкладу гэтых двух арцеляй інваліднае каапэрацыі, зараз-жа па зацьвярджэньні гадавое справаздачы агульным сходам надаслалі-б свае адлічэньні і ў фонд доўгатерміновага крэдытаваньня і ў запасныя капіталы свайму каапэрацыйнаму банку (або па належнасьці сельска-гаспадарчаму банку) для захоўваньня і плянавага кірунку, было-б добра.

На каапэрацыйных інструктарох, сяброх праўленьняў і рэвізійных камісіях ляжыць абавязак па дакладнаму і своечасоваму выкананьню вышэй паданых дэкрэтаў з тым, каб рэвізійныя камісіі пры складаньні проэктаў разьмяркованага за 1927-28 г. прыбытку па балянсу на 1/Х-28 г. абавязкова зрабілі адлічэньні па 10 проц. (а крэдытныя с.-г. т-вы і крэдытна-прамысловыя т-вы па 20 проц.) у фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня і ў запасныя капіталы, якія павінны быць накіраваны беларускаму аддзяленьню Усекабанку альбо непасрэдна, альбо праз свой саюз. Гэта павінны зрабіць і сходы пры фактычным разьмеркаваньні прыбытку.

Палажэньне аб ФДК надрукована ў Інфармацыйным бюлетэні Белкаапсаюза № 3, ад 30 кастрычніка г. г., і ў часопісе «Шлях Каапэрацыі» № 8—9 за чэрвень-ліпень месяцы 1928 г.

Палажэньне аб «запасных капіталах» надрукована ў часопісе «Шлях каапэрацыі» № 10, за жнівень месяц г. г., і ў бліжэйшы час будзе надрукована у бюлетэні Белкаапсаюзу.

Апрача таго, усякая каапэрацыйная арганізацыя можа іх выпісаць ад Беларускага аддзяленьня Усекабанку.

Хутчэй зьбярэм фонды, хутчэй будзем з новымі прыстасаванымі будынкамі.

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

**І. Г.**

## Сацыяльны склад таваразвароту БССР

Характарызуючы рыначныя адносіны на 1928-29 г., кантрольныя лічбы Дзяржпляну адзначаюць, што асноўнай лініяй, якая вызначае разьвіцьцё таваразвароту, зьяўляецца ўстаноўка на далейшае аграмаджваньне яго. Такая ўстаноўка выклікаецца ўсім ходам рыначных абставін і каньюнктуры, якія складаюцца за апошнія гады.

Добра відаць, што накіраваньне таваразвароту ў рэчышча сацыялістычнага будаўніцтва магчыма толькі тады, калі ў сфэры рыначных адносін капіталістычны сэктар будзе пастаўлены ў становішча, падпарадкаванае аграмаджаным (дзяржаўным і каапэрацыйным) формам гаспадаркі.

Толькі пры гэтай умове дзяржаўнае рэгуляваньне, падмацаванае эканамічным базысам, здолее ў поўнай меры рэальна ўзьдзейнічаць на стыхію і неарганізаванасьць рынку, якая ў вядомай меры ўласьціва нашаму савецкаму рынку ва ўмовах пераходнага пэрыоду.

З гэтае кропкі погляду заслугоўваюць ўвагі пытаньні, якія зьвязаны з перасоўваньнем паасобных сэктараў гандлёва-пасярэдніцкага звароту БССР.

Агаворымся, што ў асноўным мы будзем апэраваць лічбамі, данымі Дзяржпляну БССР.

Аналіз вызначанай тэмы мэтазгодна будзе вясьці ў плазе разгляду наступных пытаньняў: а) наколькі ў агульным паступовым росьце таваразвароту колькасна адмяніліся паасобныя арганізаваныя сацыяльныя тыпы гандлю, б) у сувязі з гэтым неабходна будзе прасачыць перамяшчэньне ўдзельнае вагі асобных контрагэнтаў на асобных вучастках таваразвароту і в) наколькі ў поступах, якія адбываюцца, выпаданьне прыватніка ў дастатковай меры замяшчаецца аграмаджаным сэктарам.

Да пераходу непасрэдна да нашае тэмы мы лічым досыць цікавым падаць даныя аб росьце таваразвароту БССР па асобных відах яго:

| | У мільёнах руб. | | | | У %% наступ. год | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 25-26 | 26-27 | 27-28 | 28-29 | 26-27 | 27-28 | 28-29 |
| Агулам | 204,3 | 190,5 | 269,7 | 356,8 | 93,3 | 141,5 | 132,3 |
| Розьніца | 231 | 263,4 | 271,8 | 301,0 | 114,0 | 103,2 | 110,8 |
| У тым ліку | | | | | | | |
| Гарадзкая | 186,7 | 210,5 | 214,5 | 234,5 | 112,7 | 101,9 | 109,4 |
| Сельская | 44,3 | 52,8 | 57,3 | 65,8 | 119,4 | 109,6 | 114,8 |
| **Увесь гандл.-пасярэдн. зварот** | **435.3** | **453,9** | **541.5** | **657,8** | **104,3** | **119.3** | **121,5** |

Не даючы распаўсюджаныя камэнтарыі да паданае табліцы, мы толькі застановімся на параўнаньні тэмпаў росту звароту агульных і розьнічных зьвенчакоў. Больш апярэджваючыя тэмпы росту зваротаў агулавых зьвенчакоў параўнальна са зваротамі розьнічных зьяўляюцца вынікам рэканструкцыі таварапрасоўваньня. Калі ў першыя гады перыоду, які мы разглядаем, у агульнай частцы таваразвароту БССР займаў дзяржгандаль у асобах аддзяленьняў сындыкатаў і трэстаў са сваім разьветленым складзкім апаратам рашучае месца, дык па меры арганізацыі і ўзмацненьня

вышэйшых зьвенчакоў асобных каапэрацыйных сыстэм, пераразьмеркаваньне агулавага звароту ад дзяржгандлю ў каапэрацыю, як абумоўленае ростам і ўзмацненьнем унутрыкаапэрацыйных сувязяй на пачатках транзыту, які ўсё ўзрастае, не магло ня выклікаць рацыяналізацыі тавараздвароту ў цэлым.

Разам з перагрупіроўкай ўнутры аграмаджанага сэктару, які вызначаецца, адначасова адбываецца няўхільнае выпадзеньне са сфэры агулевае часткі тавараз²вароту прыватніка. Займаючы досыць небагатае ўдзельнае месца ў выхадным 1925-26 г., прыватны агулавы гандаль з году ў год сьціскаецца, пры чым на яго долю ў 1927-28 г. застаецца толькі зварот у 4,6 міл. руб.; у 1928-29 годзе памер прыватнага агульнага гандлю зыходзіць усяго толькі да 3924 тыс. руб.

У падрахунку вызначаных перагрупіровак сацыяльны склад агульнага звароту БССР за апошнія гады і па меркаваньнях на будучы год выяўляецца ў наступным:

| | У адносных велічынях | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Дзярж. | Каапэр. | Прыватн. | Усяго |
| 1925-26 г. . . . . . . | 54,9 | 38,1 | 7,0 | 100 |
| 1926-27 г. . . . . . . | 45,9 | 50,8 | 3,3 | 100 |
| 1927-28 г. . . . . . . | 38,9 | 59,4 | 1,4 | 100 |
| 1928-29 г. . . . . . . | 33,6 | 65,3 | 1,1 | 100 |

Такім чынам у 1928 29 г. мы маем заканчэньне аграмаджаньня агулавага сэктару, які зьяўляецца каманднa-вузлавым пунктам для рэгуляваньня ўсяго тавараздвароту ў цэлым.

Асабліва аграмаджаньне агулавага звароту мае вялізарнае значэньне ва ўмовах надзвычайна напружанае рыначнае кан'юнктуры, якая характарызуецца на працягу апошніх год разрывам попыту і прапановы ня толькі на прамтавары, але і на значную частку сельгаспрадуктаў.

Не канцэнтруючы ў сваіх руках таварных мас, дзяржава фактычна ня здолела аўладаць мэханізмам цэнастварэньня і накіроўваць матар'яльны дабрабыт краіны ў рэчышча арганізаванага забесьпячэньня гораду і вёскі.

Аграмаджэньне і рацыяналізацыя ўнутры аграмаджанага сэктару агулавага гандлю натуральна стварылі магчымасьць дольнага ўдзейнічаньня на сацыяльны склад розьнічных зьвенчакоў.

Рух абсалютных памераў заваротаў розьнічнага зьвенчаку ў выглядзе асобных контрагэнтаў, якія яго праводзяць, відаць па наступнай табліцы:

| | У мільёнах руб. | | | | У %% дн наст. г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 25-26 | 26-27 | 27-28 | 28-29 (плян) | 26-27 | 27-28 | 28-29 |
| Дзяржаўны . . . . . . . . . . . | 19,8 | 25,0 | 26,1 | 27,2 | 122,0 | 104,5 | 104 |
| Каапэрацыйны . . . . . . . . . | 104,3 | 135,0 | 165,3 | 202,8 | 129,4 | 122,5 | 122,7 |
| Прыватны . . . . . . . . . . . . | 106,9 | 103,4 | 80,3 | 71,0 | 96,7 | 77,7 | 88,4 |
| **Усяго** . . . | **231** | **263,4** | **271,7** | **301,0** | **114,0** | **103,2** | **110,8** |

У розьнічным сэктары гандлю за апошнія 3 гады адбыліся поступы такога парадку.

Дзяржаўная розьніца, якая ўзрасла асабліва моцна ў першы год пэрыоду, які мы разглядалі ў надзвычайныя гады дае нязначныя прырosты на ўзроўню 4,5 і 4 проц. Тэмпы прыросту дзяржаўнае розьніцы па асобных гадох ніжэй тэмпу прыросту розьнічнага звароту ў цэлым.

Больш шпарка ўзрастаюць звароты каапэрацыйнае розьніцы, пры чым гэты рост працякае значна вышэй ўзроўню росту рыначнага звароту ў цэлым.

Што тычыцца прыватнага гандлю, дык ён у працягу пэрыоду, які мы разглядаем, паступова здае свае пазыцыі аграмаджанаму сэктару, у прыватнасьці каапэрацыі. Звароты прыватнага гандлю ня толькі адносна, але і абсалютна скарачаюцца. Плянам на 1928-29 г. прадугледжваецца далейшае яго (прыватнага гандлю) скарачэньне звароту, праўда, некалькі ў больш прыцішаным тэмпе.

Прасочым, у якой меры гэтыя працэсы вызначаліся асобна ў гарадзкіх і сельскіх мясцовасьцях:

| ЗВАРОТ | У мільёнах рублёў | | | | У %% да паст. году | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 25-26 | 26-27 | 27-28 | 28-29 (плян) | 26-27 | 27-28 | 28-29 (плян) |
| **Дзяржаўныя** | | | | | | | |
| а) сельскі | 0,2 | 0,233 | 0,272 | 0,282 | 117,4 | 116,6 | 103,7 |
| б) гарадзкі | 19,6 | 24,800 | 25,900 | 26,900 | 126,2 | 104,4 | 104,0 |
| **Каапэрацыйны** | | | | | | | |
| а) сельскі | 29,4 | 37,200 | 45,000 | 55.000 | 126,8 | 120.8 | 122,2 |
| б) гарадзкі | 75,0 | 97,700 | 120,300 | 147,300 | 130,4 | 123,0 | 123,4 |
| **Прыватны** | | | | | | | |
| а) сельскі | 14.7 | 15,400 | 12,000 | 10.500 | 104,6 | 78,0 | 87,5 |
| б) гарадзкі | 92,9 | 88,000 | 68,400 | 60,500 | 95,5 | 77,6 | 88,6 |
| **Усяго** гарадзкі | 186.7 | 210,500 | 214.500 | 234.700 | 112,7 | 101,9 | 109,4 |
| **Усяго** сельскі | 44,3 | 52,900 | 57,200 | 65,800 | 119,4 | 109,6 | 114,8 |



Падрахункавыя даныя паданае табліцы выяўляюць надзвычайна цікавую, з кропкі погляду пабудовы правільнага абмену між горадам і вёскаю, тэндэнцыю больш моцнага росту розьнічнага звароту сельскага сэктару ў параўнаньні з гарадзкім.




Мы маем прырост розьнічнага звароту па гэтаму ў параўнаньні з мінулым годам: у 1926-27 г. + 19,4 проц., у 1927-28 г. + 19,5 проц. і ў 1928-29 г. (плян)+14,8 проц. у той час, калі адпаведныя прыросты па гораду складаюць+12,7+1,9+9,4 проц.

Гэтае зьявішча, абумоўленае ўсё нарастаючым працэсам перасоўваньня рынкаў ад гарадзкіх мясцовасьцяй ў сельскія, зьяўляецца вынікам устаноўкі сьвядомага дзяржаўнага рэгуляваньня на максымальнае набліжэньне таварных мас да сельскага спажыўца.

Разам з гэтым трэба адзначыць, што плянаваньне розьнічнага звароту ў такім напрамку стала магчымым, толькі дзякуючы працэсам аграмаджаньня розьнічнае часткі звароту з выцякаючым адсюль рашучым значэньнем аграмаджанага сэктару, а ў асаблівасьці каапэрацыйнае яго часткі на рынку.

І калі праглядзець у паданай табліцы колькасныя памеры зваротаў паасобных сацыяльна-арганізаваных тыпаў гандлю па катэгорыях паселішчаў (горад і вёска), дык робіцца зусім ясным, што больш правільнае разьмеркаваньне таварных мас паміж горадам і вёскаю цесна зьвязана з замяшчэньнем прыватніцкага апарату разьмеркаваньня каапэрацыйным. Аб значэньні для вёскі дзяржаўнае розьніцы гаварыць ня трэба ў зьвязку з амаль поўнаю адсутнасьцю яе там.

Трэба агаварыцца, што на данай стадыі свайго разьвіцьця розьнічны зварот у масе сваёй застаецца сканцэнтраваным у гарадзкіх паселішчах, дзе знаходзіць сваё таварнае здавальненьне ня толькі гарадзкое насельніцтва, але ў значнай частцы і сельскае.

У асноўным гэта зьявішча знаходзіць сваё тлумачэньне, па-першае, у больш высокай грашовасьці гарадзкога бюджэту, а па-другое, у больш

рознастайным асартымэнце тавараў у гарадзкім гандлю, па-трэцяе, эканамічным тягаценьні сельскага насельніцтва да гораду, дзе яно рэалізуе сваю прадукцыю, па-чацьвёртае, у адсутнасьці у вёсцы гандлёва-тэхнічнае базы, якая ставіць значныя цяжкасьці прасоўваньню тавараў у глыбокія сельскія мясцовасьці.

Як вынікавы выраз паказанае намі дынамікі росту паасобных арганізаваных тыпаў гандлю, дамо даныя аб сацыяльным складзе звароту розьнічнага гандлю ў процантах:

| | Дзяржаўнае | Каапэрац. | Прыватн. | Усяго | У тым ліку | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Гарадзкое | | | | Сельскае | | | |
| | | | | | Дзяр-жаўн. | Каапэ-рац. | Пры-ватн. | Усяго | Дзяр-жаўн. | Каапэ-рац. | Пры-ватн. | Усяго |
| 1925-26 . . | 8,6 | 45,1 | 46,3 | 100 | 10,5 | 40,1 | 49,4 | 100 | 0,4 | 66,3 | 33,3 | 100 |
| 1926-27 . . | 9,5 | 51,2 | 39,3 | 100 | 11,8 | 46,4 | 41,8 | 100 | 0,4 | 70,4 | 29,2 | 100 |
| 1927-28 . . | 9,6 | 60,8 | 29,6 | 100 | 12,0 | 56,1 | 31,9 | 100 | 0,4 | 78,6 | 21,0 | 100 |
| 1928-29 . . | 9,0 | 67,4 | 23,6 | 100 | 11,5 | 62,7 | 26,8 | 100 | 0,4 | 83,6 | 16,0 | 100 |

Паданыя адносныя даныя паказваюць прыкладнае стабільнае становішча дзяржаўнага гандлю ў розьніцы і прагрэсыўнае павялічэньне дольнае вагі каапэрацыі за лік прыватніка.

У заключэньне дамо даныя аб сацыяльным складзе ўсяго таваразвароту БССР:

| | У адносных вялічынях %% | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Дзяржаўн. | Каапэрац. | Прыватн. | Усяго |
| 1925-26 г. . . . . . . | 30,3 | 41,3 | 27,9 | 100 |
| 1926-27 г. . . . . . . | 24,8 | 51,1 | 24,1 | 100 |
| 1927-28 г. . . . . . . | 24,4 | 60,1 | 15,7 | 100 |
| 1928-29 г. . . . . . | 22,3 | 66,3 | 11,4 | 100 |

Такім чынам, на данай стадыі разьвіцьця таваразвароту мы маем яскрава выяўленую перавагу агульнага пачатку над прыватным.

Калі ў першыя гады Нэпу ўвесь рынак быў у руках прыватнае гандлёва-капіталістычнае сыстэмы, дык у сучасны момант абставіны зусім зьмяніліся.

Прыватны гандлёвы апарат не азначае ўжо сабой колькі-небудзь рэальнага значэньня на рынку.

Хутчэй прыватны гандаль надае сабою перажытак мінулага, чым элемэнт будучы.

Падзеньне прыватнага гандлю абумаўляецца ўзмоцненым ростам каапэрацыйна-гандлёвага апарату, які набывае значэньне асноўнае сілы ўнутранага тавараабмену.

Каапэрацыйны гандаль расьце ня толькі за лік уцягненьня прыватнагандлёвага сэктару і ня толькі за лік таварных мас, якія ўзноў паступаюць у зварот, але таксама і за лік адноснага сьцісканьня дзяржаўнага гандлю.

Такое разьвіцьцё таваразвароту ў сацыяльным яго складзе, якое абумоўліваецца ростам і ўзмацненьнем плянавых пачаткаў на адным з вучасткаў народнае гаспадаркі, які найбольш цяжка падаецца дзяржаўнаму рэгуляваньню, высоўвае пытаньне аб якасным замяшчэньні каапэрацыйным гандлем прыватніка, які ёй выціскаецца.

Трэба сабе добра ўявіць, што задача па замяшчэньні, якая пастаўлена перад каапэрацыяй, зьяўляецца задачай ня толькі колькаснага, колькі якаснага парадку.

Каапэраваныя формы звароту павінны адрозьнівацца ад капіталістычных павышэньнем і разьвіцьцём культурна-якасных працэсаў у справе абслугоўваньня спажыўца ня толькі, каб спажывец адчуваў усю карысьць перавагі каапэрацыйнага савецкага ладу.

Пры вялізарных дасягненьнях у рацыяналізацыі тавараразвароту мы не на ўсіх вучастках яго дабіліся патрэбных нам якасных вынікаў.

Па лініі агулавае часткі тавараразвароту ў сілу абхопу яе каапэрацыяй можна было-б сьмела без усялякага рыску ліквідаваць цэлы шэраг кіраўніцтваў цэнтральных трэстаў і сындыкатаў, якія існуюць, якія надаюць сабою як толькі пераржытак яшчэ не наладжаных форм узаемаадносін сярод дзяржпрамысловасьцю і каапэрацыйнымі сыстэмамі.

У галіне розьнічнага звароту прыватнік не дастаткова замяшчаецца. Хуткае выпадзеньне яго шырока разьветленае раней сеткі далёка ня поўна папаўняецца каапэрацыйнай у выніку чаго агульная лавачная сетка скарачаецца, і сярэдняя пакупная нагрузка на 1 гандлёвы пункт узрастае.

Такое становішча нямінуча праводзіцца ростам так званых „невидимых“ страт звароту ў мэце затраты непрацоўным насельніцтвам нэрвовых і фізычных сіл, якія зьвязаны з працэсам здавальненьня ім свайго спажывецкага попыту (чаргі і г. д.).

Гэты бок замяшчэньня патрабуе самае дэтальнае ўвагі і прыёму самых неадкладных мерапрыемстваў.

---

**А. Рыбакоў**

# Аб перарастаньні першапачатковых вытворчых аб'яднаньняў у калектыўныя гаспадаркі

Зусім бясспрэчна пытаньне аб магчымасьці падвышэньня ураджайнасьці і наогул павялічэньня валавой і таварнае прадукцыі праз калгасы. А раз гэта так, дык наша задача сетку гэтага віду аб'яднаньня як можна хутчэй разгортваць і яе пашыраць. Праца па пабудове калгаснае сеткі павінна будзе праходзіць як шляхам непасрэднае арганізацыі калгасаў, так і шляхам падрыхтоўкі першапачатковых вытворчых аб'яднаньняў да пераходу іх да калектыўных форм гаспадараваньня. Мы зараз зьвернемся да пытаньня, у якім напрамку мы павінны весьці працу з гэтымі вытворчымі каапэратывамі, каб ім спрыяць да перарастаньня ў вышэйшыя формы аб'яднаньняў ў сэнсе абагуліваньня.

*Возьмем машынныя таварыствы.* Гэты від аб'яднаньня найбольш лёгка перавесьці ў калектыўныя формы. Адсутнічаньне сродкаў у кожнага паасобнага двара на набыцьцё машын і немагчымасьць рэнтабельнага скарыстаньня машын у дробнай гаспадарцы прымушаюць да арганізацыі машынных таварыстваў. Вузкапалосіца-ж не дае магчымасьці таварыству набываць больш складаныя глебаапрацовачныя машыны—трактары, машыны па уборцы ураджаю, г. зн. машыны, якія даюць вялікую эфэктыўнасьць для гаспадаркі. Каб гэтыя прычыны не перашкаджалі ўжываньню машын, трэба раўнаваць межы і пераходзіць да агульнае апрацоўкі зямлі.

Пачынаць абагулены пасеў трэба з пачатку на розных запасных фондах, якія знаходзяцца ў карыстаньні пайшчыкаў таварыства, потым пераходзіць да суцэльнага пасеву канюшыннага кліну, арганізацыі суцэльных пасеваў гатунковага насеньня, сумеснае працы па паляпшэньню лугоў і іх уборкі машынай, потым ужо паступова падыйсьці да ўсяе абагуленае працы па апрацоўцы глебы. Раз гэта праца пачалася, трэба такім машынным таварыствам даваць трактары і складаныя машыны па апрацоўцы ураджаю. Трактар дапаможа наладзіць грамадзкую апрацоўку зямлі, абагуленую малацьбу і арганізацыю розных тэхнічных прадпрыемстваў і нават абагуленае карыстаньне конямі.

Рух *гандлёва-адміністрацыйных выдаткаў*, у разрезе двух асноўных складаючых груп—залежнай і незалежнай—характарызуецца наступнымі лічбамі:

**А. Залежныя:**

| | Абсалютна ў тыс. руб. | | | У %% да звароту | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
| Спажыўтаварыствы | 3.317,4 | 3.456,1 | 3.850,1 | 6,37 | 4,39 | 3,94 |
| ЦРК | 2.769,4 | 3.007,5 | 3.655,0 | 5,52 | 4,78 | 4,68 |
| Саюзы | 874,4 | 833,4 | 1.005,1 | 2,37 | 1,66 | 1,60 |
| БКС | 481,1 | 496,3 | 527,1 | 0,88 | 0,54 | 0,43 |

Такім чынам, зьніжэньне адноснага ўзроўню залежных выдаткаў атрымлівае сваё далейшае развіцьцё ў 1928-29 г., што абумоўліваецца развіцьцём тых рацыяналізатарскіх працэсаў, якія атрымалі сваю канкрэтную ўстаноўку ў кантрольных лічбах адпаведных галін працы (па таваразвароце, арганізацыйным будаўніцтве, капітальным будаўніцтве і г. д.). Асноўнае ў гэтым працэсе—гэта рацыяналізацыя і патаненьне апарату, ня гледзячы на яго колькасны ўзрост (у зьвязку з ростам аб'ёму гандлёвае працы) і на падвышэньне сярэдняга ўзроўню зарплаты (асабліва для сель кіх працаўнікоў). Рашучымі прадпасылкамі такога патаненьня зьяўляюцца узбуйненьне спажывецкіх таварыстваў з ушчыльненьнем негандлёвага пэрсаналу, якое вынікае адгэтуль:

| | Па сыстэме ў тысячах | | |
|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
| Колькасьць платных працаўнікоў | 7.851 | 7.736 | 8,403 |
| Фонд заработнае платы | 4.562,3 | 4.809,0 | 5.525,5 |
| %% да звароту | 2,24 | 1,70 | 1,52 |
| У %% да папярэдняга году | — | 105 | 114 |
| Сярэдняя зарплата (агульн.) | 48 р. 42 к. | 51 р. 83 к. | 54 р. 75 к. |
| У %% да папярэдняга году | — | 107 | 106 |
| Сярэдняя зарплата адн. сел. работ. | 38 р. 50 к. | 40 р. 50 к. | 43 р. 08 к. |
| У %% да папярэдн. году | — | 105 | 107 |
| Сярэдн. гадав. нагрузка | 26,0 | 36,7 | 43,0 |
| У т. л на аднаго ганд. работн. | — | 54 | 61,5 |
| „ „ „ „ негандл. работ. | — | 111,0 | 143,0 |
| Суадносіны негандл. пэрсаналу да гандлёв. | | | |
| па нізовай сетцы | 1 : 1,6 | 1 : 2,3 | 1 : 2,8 |
| па саюзах і БКС | — | 2 : 1 | 2 : 1 |

У залежнасьці ад зарплаты, зьніжаецца адносны ўзровень і налічэньняў на зарплату.

Роўным чынам рацыяналізацыя гандлёва-гаспадарчых працэсаў, што разьвіваецца, абумоўлівае і адноснае зьніжэньне гаспадарчых выдаткаў.

**Б. Незалежныя-ж выдаткі** разьвіваюцца інакш: зьніжаючыся некалькі ў гуртавых зьвенчаках, яны ўзрастаюць у нізовым зьвенчаку—спажыўтаварыствах і ЦРК, што абумоўліваецца выключна ўзмацненьнем

падатковага абкладаньня, якое непасрэдна закранае нізоўку і ня толькі паглынае некаторае зьніжэньне па іншых групах незалежных (арэнда, проц. за арэнду), але мае і ўплыў, у сэнсе павялічальным, на агульны ўзровень выдаткаў у спажыўтаварыствах і ЦРК; пры гэтым асабліва значны рост незалежных дае 1928-29 г., хаця мы ўлічылі павялічэньне падатковых ставак у мінімальным разьмеры, г. зн. на 0,8 проц. да звароту (3,5 супроць 2,7).

**В. У выніку** атрымліваем такі параўнаўчы малюнак руху ўзроўню залежых і незалежных выдаткаў:

| | Залежныя | | | | Незалежныя | | | | Агульныя | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | С. Т. | ЦРК | Р. С. | БКС. | С. Т. | ЦРК | Р. С. | БКС | С. Т. | ЦРК | Р. С. | БКС. |
| 1926-27 г. . . . . . . . | 5,37 | 5,52 | 2,37 | 0,88 | 3,37 | 4,65 | 1,60 | 0,45 | 8,74 | 10,17 | 3,97 | 1,33 |
| 1927-28 г. . . . . . . . | 4,39 | 4,78 | 1,66 | 0,54 | 3,59 | 4,85 | 1,45 | 0,33 | 7,98 | 9,63 | 3,11 | 0,87 |
| 1928-29 г. . . . . . . . | 3,94 | 4,68 | 1,60 | 0,43 | 4,21 | 5,39 | 1,04 | 0,30 | 8,15 | 10,07 | 2,64 | 0,73 |

Адгэтуль прыбытковасьць працы спажыўкаапэрацыі, якая вызначаецца розьніцай паміж коштам пасярэдніцкіх паслуг (г. зн. накладныя выдаткі плюс налажэньні і выпадковыя прыбыткі) і ўзроўнем гандлёва-арганізацыйных выдаткаў, выявіцца ў наступных велічынях (у проц. да звароту па продажы):

| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | Нормы СПА |
|---|---|---|---|---|
| Спажыўтаварыствы . . . . . | 0,63 | 1,58 | 1,63 | 2,25 |
| ЦРК . . . . . . . . . . . . . | 0,50 | 0,90 | 0,77 | 1,90 |
| Р. С. . . . . . . . . . . . . | 0,23 | 0,95 | 1,00 | 1,00 |
| БКС . . . . . . . . . . . . . | 0,22 | 0,25 | 0,35 | 0,75 |

Такім чынам, дзякуючы павышэньню падаткаў, узровень прыбытку ў нізавых зьвеньчаках і ў 1928-29 г. далёка не дасягае нормаў СПА (норма гэта дасягаецца толькі па райсаюзах), пры чым па рабоча-гарадзкой кааперацыі адзначаецца нават значнае пагоршаньне супроць мінулага году.

У выніку праламленьне выдаткаў звароту і кошту пасярэдніцкіх паслуг па каапэрацыйным цэнастварэньні характарызуецца наступнымі паказьнікамі (у правай частцы табліцы за 100 прынята продажная цана тавару; у левай частцы—за 100 прынята пакупная цана тавару для каапэрацыі):

| | У %/% да чыстага звароту сыстэмы па прадажн. цэнах | | | | У %/% да чыстага звароту сыстэмы па пакупн. цэнах | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 25-26 | 26-27 | 27-28 | 28-29 | 25-26 | 26-27 | 27-28 | 28-29 |
| Кошт пасярэдн. паслуг (выдаткі і страты) . . . . . | 19,08 | 18,77 | 17,36 | 17,28 | 24,51 | 28,32 | 21,46 | 21,33 |
| Прыбытак . . . . . . . . . . | 3,03 | 0,73 | 1,69 | 1,72 | 3,88 | 0,90 | 2,05 | 2,12 |
| Усяго кошт паслуг для спажыўца . . . . . . . . . | 22,11 | 19,50 | 19,05 | 19,00 | 28,39 | 24,22 | 23,51 | 23,45 |
| Кошт тавару . . . . . . . . | 77,89 | 80,50 | 80,95 | 81,00 | 100,00 | 100,00 | 100,00 | 100,00 |
| **Усяго . . .** | **100,00** | **100,00** | **100,00** | **100,00** | **128,39** | **124,22** | **123,51** | **123,45** |

севазвароту з кармавым клінам. Паляпшэньне-ж лугоў і арганізацыя штучных выганаў ў большай сваёй частцы немагчыма зрабіць кожнаму паасобку, а трэба арганізацыя абагуленае працы. Тая-ж самая матар'яльная зацікаўленасьць вядзе да неабходнасьці арганізацыі злучных пунктаў і арганізацыі пры таварыствах калектыўных рассаднікаў жывёлы. Пры таварыствах павінны быць арганізаваны сумесны адкорм жывёлы для збыту і адкорм сьвіней для скарыстаньня малочных адходаў. У пэрспэктыве будзе мецца магчымасьць агульнае пабудовы скотных двароў і абагульваньне кароў, якія абслугоўваюць малочныя заводы.

*Птушкаводныя таварыствы* аб'ектам калектыўнае працы павінны ставіць, апрача сумеснага продажу яек, адкорм птушкі для рынку, арганізацыю сваіх уласных рассаднікаў па гадоўлі чыстапароднае птушкі і забесьпячэньню апошнімі гаспадарак пайшчыкаў.

*Рыбалоўныя арцелі.* Тут арцелі сумесна скарыстоўваюць сваю працу па ўлову рыбы і яе продажу. Пайнікі рыбалоўных арцеляў аб'яднаюцца вакол прудоў па разьвядзеньню рыбы. Абагуленымі аб'ектамі ў галіне рыбалоўства і рыбаводства, такім чынам, павінна зьявіцца сумесная праца па ўлову рыбы і карыстаньню штучнымі вадаёмамі.

Мы разгледзелі шэраг вытворчых аб'яднаньняў і паказалі на тыя аб'екты, вакол якіх трэба абагульваць тыя ці іншыя фактары вытворчасьці. Гэтыя моманты абагульваньня павінны будуць цесным кальцом ахапіць паасобную сялянскую гаспадарку, упэўніць гаспадароў у карыснасьці гэтакага абагульваньня і правесьці цалкам паасобныя гаспадаркі на калектыўныя формы гаспадараньня.

---

**В. Д. Адлерштэйн, А. Н. Жук**

# Ці патрэбны райсаюзы ў сыстэме спажывецкае каапэрацыі Беларусі?

**(У парадку абгаварэньня па матар'ялах НКРСІ)**

Апошнія паўтары гады працы спажывецкае каапэрацыі Беларусі сьцьвердзілі ўсю жыцьцёвасьць і мэтазгоднасьць праведзенае ў 1927 годзе, на основе прапаноў НКРСІ БССР, рэарганізацыі яе сярэдняга зьвенчаку, якая выявілася ў ліквідацыі 5 дробна-раённых саюзаў, з заменаю іх сеткаю аддзяленьняў саюзнага зьвенчака, які застаўся. Эффэктнасьць праведзенае рэарганізацыі знайшла сваё канкрэтнае выяўленьне ў стварэньні найбольш гнуткіх і пэўных формаў узаемаадносін унутры сельскага сэктару спажыв. сыстэмы, канцэнтрацыі капіталаў, зьніжэньня ўтрымак звароту, за лік значнага скарачэньня апарату і г. д. З другога боку практыка працы рэарганізаванае спажыўсыстэмы на працягу гэтага пэрыоду паказала, што ва ўмовах узрастаньня плянавых пачаткаў у сфэры разьмеркаваньня тавараў праведзенае ўзбуйненьне сярэдняга зьвенчака спажыўсыстэмы поўнасьцю яшчэ не вырашае праблемы яе арганізацыйнага будаўніцтва адпаведна з задачамі па правільнай арганізацыі каапэрацыйнае гаспадаркі і звароту. Іначай кажучы, арганізацыйныя формы, якія склаліся ў выніку праведзенага ўзмацненьня райсаюзаў каапэрацыйнага будаўніцтва нельга лічыць, што яны поўнасьцю адпавядаюць новым умовам працы спажыўсыстэмы, якія падсказваюць зусім новае вырашэньне пытаньня—ператварыць існуючыя цяпер райсаюзы ў аддзяленьні Белкаапсаюзу, паколькі яны (райсаюзы) у данай галіне разьвіцьця Беларускае спажывецкае каапэрацыі выявілі сябе, як зусім лішні пасярэдніцкі зьвянок ў іх сыстэме.

Па сутнасьці кажучы, праблема арганізацыйнага будаўніцтва спажывецкае каапэрацыі ў асноўным упіраецца ў існуючыя формы звароту

тавараў на спажывецкім рынку—цэнтралізаванае разьмяркоўваньне тавараў па гендагаворах, альбо непасрэдная сувязь каапэрацыйнае пэрыфэрыі з сындыкацкім гандлем і другімі таваразабясьпечваючымі арганізацыямі. З гэтага боку ўся злучнасьць гаспадарчых умоў сучаснага моманту паніжае ролю райсаюзаў, як арганізацый, якія маюць шырокую гаспадарчую ініцыятыву ў частцы набыцьця тавараў на аснове чыста рынчачных адносін. І праўда, калі яшчэ ў 1926-27 годзе райсаюзы набывалі значную масу таварных фондаў шляхам непасрэдных сувязяй, дык у гэтым годзе суадносіны паміж гендагаворамі і мясцовым зваротам ужо такія, што гендагаворы сталі асноўным фактарам насычэньня спажывецкага рынку таварамі. Досыць даць прыклад, што ў звароце абследжанага Гомельскага райсаюзу гендагаворы займаюць 80—85 проц. Дык судзячы па гэтым, як адрозьніваецца сучасны пэрыод, зьяўляецца павялічаны абхоп каапэрацыйнага звароту гендагавораў сыстэмай, што ў наступныя гады, бязумоўна, атрымае сваё далейшае разьвіцьцё. А так як сыстэма гендагавораў у практычным сваім зьдзяйсьненьні азначае плянавы завоз тавараў у райсаюзы транзытным шляхам адпаведна іх значэньню ў каапэраваньні насельніцтва, намнажэньні паю, зарыхтоўках і інш., дык зусім натуральна, што іх роля ў сучасных умовах укладваецца ў досыць вузкія рамкі— атрымаць ад прамысловасьці тавары па гендагаворах, якія заключаюцца Белкаапсаюзам, і разьмеркаваць іх на аснове ўстаноўленых каэфіцыэнтаў паміж спажывецкімі таварыствамі свайго раёну. У сувязі з гэтым цікава яшчэ прасачыць дынаміку ўнутры-каапэрацыйных гаспадарчых сувязяй. У гэтых адносінах надзвычайна характэрным зьяўляецца той факт, што ў 1926-27 г., калі гендагаворы ў звароце Белкаапсаюзу займалі параўнаўча невялікае месца (36,5 проц.), іх удзельная вага ў забесьпячэньні райсаюзаў таварамі была не вялікая (48 проц.), і, значыцца, райсаюзы мелі магчымасьць набываць значныя масы тавараў на аснове непасрэдных гандлёвых сувязяй з рознымі арганізацыямі праз галаву свайго каапэрацыйнага цэнтру. Зусім другое становішча наглядаецца ў 1927-28 годзе, калі Белкаапсаюз, у звароце якога гендагаворы займаюць ужо каля 80 проц., зрабіўся для райсаюзаў асноўнай крыніцай таваразабесьпячэньня, захапіўшы іх зварот на 73 проц. Адгэтуль вынік, што рост цэнтралізаванага насельніцтва, працякаючы, галоўным чынам, з усё большага ўнядрэньня гендагаворнае сыстэмы і зварот БКС, у корані мяняе мэтады і ўтрыманьне гандлёва-гаспадарчае дзейнасьці райсаюзаў, пазбаўляючы іх ініцыятывы, і захоўвае за імі толькі функцыі разьмеркаваньня атрымоўваемых па гендагаворах таварах. І калі яшчэ ў сфэры мясцовае і саматужніцкае прамысловасьці райсаюзы могуць праявіць некаторую долю гаспадарчае ініцыятывы і самабытнасьці ў справе набыцьця таварнае прадукцыі (хоць і тут іх магчымасьці звужваюцца з прычыны заключэньня БКС дагавораў з Белсампрамсаюзам і іншымі мясцовымі арганізацыямі), дык другія крыніцы набыцьця тавараў для іх зусім зачынены. Такое становішча знаходзіцца ў супярэчнасьці з структураю райсоюзаў, якія наддаюць сабою самастойныя гаспадарчыя адзінкі, са сваімі правамі, капіталам, балянсам, і па характару свае гаспадарчае дзейнасьці амаль нічым не адрозьніваюцца ад аддзяленьняў Белкаапсаюзу. У гэтым выпадкуператварэньне райсаюзаў у аддзяленьні Белкаапсаюзу адчыняе астатняму найшырэйшыя магчымасьце для зьдзейсьненьня сапраўднага ўнутрыкаапэрацыйнага рэгуляваньня гаспадарчае дзейнасьці. Прадпасылкаю для зьдзейсьненьня гэтакага рэгуляваньня павінна зьявіцца вольнае загадваньне Белкаапсаюзу таварнымі масамі якія ў сваёй аснове павінны мець ня толькі мэтазгоднае разьмеркаваньн тавараў паміж асобнымі сельскімі раёнамі, прыстасоўваючы да сэзонных зарыхтоўчых і іншых асаблівасьцяў вясковага попыту, але і ўстаноўку на намнажэньне вядомых манэўраных запасаў, на працягваньне пэрыоду дзейнасьці гендагавораў. Такая пастаноўка пытаньня выходзіць, па-першае, з-за неабходнасьці ўтварэньня вядомых таварных рэсурсаў, якія маглі-б

быць фактарам эканамічнага ўплыву на каньюнктуру і яе хістаньні і, па-другое, з за існуючае практыкі разьмеркаваньня тавараў па паасобных раёнах, калі, напрыклад, Дняпросаюз, які знаходзіўся ў менш спрыяючым грашовым становішчы, атрымаў менш дэфіцытных тавараў, чымся другія райсаюзы з больш добрым грашовым становішчам, ня гледзячы на тое, што ён абслугоўвае ільнаводны раён. І калі прыняць пад увагу тое, што зьдзейсьненьне ўнутры-каапэрацыйнага рэгуляваньня у гэтым парэзе зьвязана з намнажэньнем пэўных фінансавых рэзэрваў, дык стане зразумелым, што выпадзеньне з спажыўсыстэмы райсаюзаў, якія зьяўляюцца выяўленьнем разрозьненасьці яе грашовае гаспадаркі, утварае неабходныя ўмовы для цэнтралізаванага капітала-кіраваньня, як магутнага рычага рэгуляваньня гаспадарчае дзейнасьці каапэрацыйнае пэрыфэрыі.

Якія-ж яшчэ аргумэнты гавораць за неабходнасьць ліквідацыі райсаюзаў? Дарагавізна іх утрыманьня і практыкуемыя імі высокія накладаньні на тавары. Аб гэтым можна судзіць пры сапастаўленьні адпаведных паказьнікаў па райсаюзах і аддзяленьнях Белкаапсаюзу.

| НАЗВА АРГАНІЗАЦЫІ | Накладаньні | Гандлёвыя выдаткі | Заўвага |
|---|---|---|---|
| Слуцкае аддзял. БКС . . . | 3,2 | 1,6 | У даных аб гандлёвых выдатках не ўвайшла каштоўнасьць банкаўскага крэдыту |
| Барысаўскае „ „ . . . | 2,9 | 1,8 | |
| Бабруйск. райсаюз . . . . | 4,0 | 2,1 | |
| Віцебскі „ . . . . | 4,3 | 2,0 | |
| Гомельскі „ . . . . | 4,0 | 2,7 | |
| Дняпросаюз . . . . . . . . | 4,3 | 2,5 | |

Такім чынам, ліквідацыя райсаюзаў і замена іх аддзяленьнямі Белкаапсаюзу, бязумоўна, дасьць вялікі эфэкт у скарачэньні выдаткаў звароту і накладаньняў на тавары. Праблема зьніжэньня выдаткаў звароту ў агулавым зьвенчаку набывае асаблівае актуальнае значэньне ў сувязі з меркаваньнямі павялічэньня падатковага часу на каапэрацыйную гаспадарку.

Рост удзельнае вагі каапэрацыі на спажывецкім рынку павялічае яе адказнасьць за ўзятыя на сябе абавязкі. Між тым, практыка гаспадарчых узаемаадносін дасьледаванага Гомельскага райсаюзу з БКС раскашуе гэтакага роду недарэчнасьцямі, калі райсаюз адмаўляецца выбіраць тавар ці па прычынах сэзоннага зацішша, ці таму, што ён не знаходзіць хуткага збыту на мясцовым рынку, ня гледзячы на тое, што гэты тавар у парадку вытворчага асартымэнту прадугледжаны гендагаворам, выкананьня якога павінна быць справаю ўсяе спажыв. сыстэмы, а ня толькі аднаго БКС. І ў гэтых адносінах замена райсаюзаў у аддзяленьні БКС павінна адыграць пэўную ролю, паколькі апошнія, пазбаўленыя па сваёй прыродзе ведамственных інтарэсаў, будуць больш адказнымі за свае абавязкі па выбару тавараў. На гэта яшчэ паказвае практыка ўзаемаадносін дасьледванага Слуцкага аддзяленьня БКС са сваім каапэрацыйным цэнтрам, характарызуемая наліччам элемэнтаў цеснае унутранае гаспадарчае узаемазалежнасьці.

Ня лішне таксама спыніцца на асноўных аргумэнтах праціўнікаў ліквідацыі райсаюзаў. Перш за ўсё, ці дазваляе стан нізавое сеткі ліквідаваць райсаюзы. Калі прыняць пад увагу тыя абставіны, што завяршальныя працэсы арганізацыйнага будаўніцтва нізавое сеткі набліжаюць яе да нармальнага тыпу сельскага шматкрамавага каапэратыву (3,5 крамы на адно с. т.—па даных на 1/IV-28 г.) і што ў сярэднім на адно с. т. гадавы зварот ужо пераваліў за 100.000 рублёў, дык будзе добра зразумела, што пастаноўка пытаньня аб ліквідацыі райсаюзаў зьяўляецца зусім своечасовай

Ліквідацыя райсаюзаў, бязумоўна, вызначае адзінства гаспадарчага кіраваньня, якое будзе зыходзіць ад Белкаапсаюзу. На гэтых прычынах нараджаюцца небясьпекі, як-ба кіраўніцтва Белкаапсаюзу ня стала бюрократычным? Але калі ўзаемаадносіны Белкаапсаюзу са сваімі аддзяленьнямі будуць пабудованы так, што ім будзе забясьпечана магчымасьць вырашэньня важнейшых пытаньняў каапэрацыйнага будаўніцтва, удзел у рознага роду зьездах і нарадах, і што Белкаапсаюз паставіць правільную сыстэму справаздачнасьці перад нізавымі зьвенчакамі, дык усе такія цяжкасьці павінны зьнішчыцца. Пры такім становішчы рэарганізацыя сярэдняга зьвенчака спажывецкае каапэрацыі ўзмацняе толькі арганізуючую ролю Белкаапсаюзу, не чапаючы пры гэтым унутраных сувязяй сыстэмы.

Столькі-ж сама нягрунтоўныя хваляваньні з прычыны паслабленьня грамадзкае працы пры сыстэме аддзяленьняў Белкаапсаюзу. Дасьледваньнем устаноулена, што ў галіне каапэраваньня насельніцтва і намнажэньня паю існуючыя ў сучасны момант аддзяленьні Белкаапсаюзу могуць пахваліцца такімі ж посьпехамі, як і райсаюзы, і што наогул уся каапэрацыйная і грамадская праца ў аддзяленьнях пастаўлена ня горш, чымся ў райсаюзах. Памылковым зьяўляецца выбражэньне ў тым, што грамадзкая праца спажыв. сыстэмы можа разьвівацца толькі пры наліччы выбарнана праўленьня райсаюза. Ня трэба сумнявацца ў тым, што калі аддзяленьні будуць на чале з выбарчымі працаўнікамі, якія будуць карыстацца аўтарытэтам і давер'ем насельніцтва, дык выбарчы пачатак у сыстэме райсаюзаў ня мае ніякага значэньня, паколькі такія працаўнікі, якія апіраюцца ў сваёй працы на кадры нізавых каапэратываў, ёсьць у поўнай меры добраякасны чалавечы матар'ял для разьвіцьця каапэрацыйна-грамадзкае працы.

Абагульваючы ўсё сказанае, мы прыходзім да заключэньня, што ліквідацыя райсаюзаў зьявіцца гаспадарча-мэтазгодным мерапрыемствам, якое дасьць магчымасьць патаненьня працэсаў набыцьця, манэўраваньня таварамі і грашовымі рэсурсамі, правільнай арганізацыі разьмеркаваньня тавараў па асобных сельскіх раёнах і кансалідацыі ўсяе спажыв. сыстэмы на моцнай матар'яльна-грашовай базе.

---

Гармізэ

## Капітальнае будаўніцтва ў спажывецкай каапэрацыі

Упяршыню Белкаапсаюз выступае адзіным цэнтралізаваным плянам капітальнага будаўніцтва ўсяе сыстэмы на 1928-29 г.

У сыстэме агульнага плянаваньня ўсяе работы спажыв. каапэрацыі пытаньні, якія зьвязаны з пашырэньнем і пераабсталяваньнем гандлёватэхнічнае базы атрымаюць значэньне ў некаторым сэнсе рашаючага фактару і ліміту ў справе разьвіцьця некаторых вельмі важных галін каапэрацыйнае работы.

Тыя абставіны, што спажыв. каапэрацыя па цэламу шэрагу агульнаэканамічных прычын да апошняга часу ня ўлучала належнае ўвагі пытаньням будаўніцтва ў сыстэме, прывяло да рэзкага месца неадпаведнасьці ў сыстэме гандлёватэхнічнае базы да сучаснага становішча таваразвароту.

Неадпаведнасьць такога парадку паставіла шэраг цяжкасьцяў далейшаму зьдзяйсьненьню задач, якія пастаўлены перад спажыв. каапэрацыяй у сэнсе як яе далейшага колькаснага ўзросту, так і ператварэньня гэтага колькаснага ўзросту ў якасны.

Гэтыя цяжкасьці сустрэліся ня толькі у той частцы каапэрацыйнае працы, якая канцэнтруецца выключна ў коле звароту (гандлю), але яшчэ ў большай меры ў працэсах вытворчасьці, якія, галоўным чынам, зьвязаны са зваротам, як хлебапячэньне, агульнае харчаваньне і г. д.

Нізкі ўзровень гандлёва-тэхнічнае базы асноўных фондаў зьявіўся вынікам таго, што беларуская спажывецкая каапэрацыя ня мела дастатковых рэсурсаў для разьвіцьця неабходнага колькаснага і якаснага будаўніцтва. Гэта становішча прымушала спажыв. каапэрацыю пераважна карыстацца старым матар'яльным апаратам разьмеркаваньня, як у адносіне да крамавае сеткі і складское гаспыдаркі, гэтак і ў адносіне вытворчых прадпрыемстваў. А так як гэты апарат ствараўся пры зусім іншых гаспадарчых адносінах, дык ён натуральна аказаўся зусім няпрыстасаваным да задач масавага абслугоўваньня рабоча-сялянскага насельніцтва.

Вызначэньне асобных элемэнтаў маёмасьці, якая зьдзейнічае ў спажыв. каапэрацыі, заслугоўвае асаблівага інтарэсу, і на кожным асобна варта застанавіцца.

Крамавая сетка ў спажыв. каапэрацыі расла пераважна за лік прыватна-гандлёвае сеткі, і таму ў гарадох яна аказалася канцэнтраванай у гарадзкіх цэнтрах, на рынках, і таму аказалася далёкаю ад рабочых акраін, паколькі прыватны капітал, які заняты ў рыначным гандлю, арыэнтаваўся пераважна на больш заможныя групы пакупнікоў.

Калі ў гарадох каапэрацыя мела магчымасьць выкарыстоўваць крамавыя памяшканьні, якія вызваліліся пасьля ўваходу прыватніка, дык ў сельскіх мясцовасьцях каапэрацыя і гэтых магчымасьцяў ня мела, у зьвязку з яўнай няпрыстасованасьцю для каапэрацыйнага гандлю прыватна-гандлёвае сеткі. Сельскай каапэрацыі даводзілася прыстасоўваць пад сваю сетку жыльлёвыя памяшканьні, што ў дастатковай меры вызначае прымітыўную форму такога крамавага будаўніцтва.

На пытаньне аб тым, ці кампэнсуе ў дастатковай ступені ўзрост каапэрацыйнае сеткі выпадаючую з гандлёвага звароту прыватна-гандлёвую сетку, дае адказ наступная табліца:

| | Сетка крам па Б. С. С. Р. | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Абсалютна | | | У %% наст. году | | Колькасьць душ на адну краму | | |
| | 26-27 | 27-28 | 28-29 | 27-28 | 28-29 | 26-27 | 27-28 | 28-29 |
| Горад . . . | 12.264 | 9.872 | 8.970 | 80,3 | 90,9 | 67 | 86 | 97 |
| Вёска . . . | 4.369 | 3.715 | 3.646 | 85,0 | 98,1 | 959 | 1.149 | 1.195 |
| **Усяго** . . | **16.633** | **13.587** | **12.616** | **81,8** | **92,7** | **301** | **377** | **415** |

Такім чынам, мы маем з году ў год як у сельскіх, так і гарадзкіх мясцовасьцях досыць хуткае зьвёртваньне сеткі, а адсюль рост нагрузкі на адзін гандлёвы пункт.

Зусім відавочна, што рост крамавае сеткі каапэрацыі ня ўраўнаважвае працэсаў зьвёртваньня прыватна-гандлёвых прадпрыемстваў, што ў асноўным выклікала пагоршаньне якасьці абслугоўваньня спажыўца.

Зьвяртаючыся да другога элемэнту асноўных фондаў спажыв. каапэрацыі складзкое гаспадаркі, дык і яно можа быць адзначана надзвычайна нізкім тэхнічным узроўнем і прымітыўнасьцю сваіх пабудоў, якія ў асноўным характарызуюцца далёкай адлегласьцю складаў ад чыгуначных і водных пунктаў, мала ўмясьцімасьці і часта неадпавядальнасьць да патрабаваньняў захаваньня рознавідных таварных мас, адсутнічаньнем абсталяваньня, якое-б забясьпечвала правільныя працэсы ўнутрыскладзкіх апэрацый і г. д.

Дэфэкты такога парадку ў складзкой гаспадарцы ў спажыв. каапэрацыі ў сьвеце пастаўленых перад ёю задач, як асноўнай тавараправодзячай сыстэмай па максымальнаму патаненьню і нацыяналізацыі таварапрасоўваньня, нікольні ня спрыяе арганізацыі буйнае гандлёвае гаспадаркі, якая-б рэгулярна дзейнічала як адзінаабумоўліваючая зьніжэньне страт па арганізацыі захаваньня таварных мас.

Урэшце пераходзім да якаснага абмаляваньня асноўных фондаў вытворчых прадпрыемстваў, якія эксплёатуюцца спажывецкай каапэрацыяй.

Ня маючы, па прычыне вучоту, вестак аб складзе вытворчых прадпрыемстваў, пакажам, што ў пераважнай большасьці яны абмяжоўваюцца вакол прасьцейшае пераапрацоўкі прадуктаў харчаваньня—агульнае харчаваньне і хлебапячэньне, і на іх належыць спыніцца.

Унядрэньне грамадзкага харчаваньня сярод шырокіх рабочых мас і ператварэньне яго ў асноўны фактар каапэрацыйнага ўзьдзейнічаньня на бытавыя ўмовы рабочае сям'і ў асноўным упіраецца ў нерацыянальны вытворчы працэс харчаваньняў і нездавальняючасьць арганізацыйнае пастаноўкі працэсаў абслугоўваньня. І тое і другое знаходзяць сваё месца ў прымітыўнасьці і расрозьненасьці тэхнічнай базы, што не стварае ўмоў для мэханізацыі, недастатковасьці сеткі сталовых пры недастатковых іх прапускных магчымасьцях і г. д. Усё гэта стварае дэфіцытнасьць сталовак, пры высокіх і часамі недаступных для рабочае сям'і з сярэднім бюджэтам цэнах на прадукцыю грамадзкага харчаваньня.

Наколькі справа грамадзкага харчаваньня пры ўсіх сваіх дасягненьнях за апошні час адпавядае нашай абмалёўцы, відаць з наступных лічбавых паказальнікаў.

| ГАДЫ | Колькасьць сталовак | Фактычны водпуск абед. у працягу году (у тыс.) | Процант загрузкі сталов. | Процант ахопу грам. хар. рабоч. насельн. | Рэнтабельнасьць |
|---|---|---|---|---|---|
| 1925-26 . . . . . . . . . . | 29 | 2.821.5 | 50 | 7,5 | — 2,3 |
| 1926-27 . . . . . . . . . . | 37 | 3.051,0 | 53 | 8,1 | — 5,5 |
| 1927-28 . . . . . . . . . . | 46 | 3.430,0 | 60 | 9,1 | — 4,0 |
| 1928-29 (плян) . . . . . . . | 48 | 4.232,0 | 70 | 11,3 | — 1,8 |

Толькі ў галіне хлебапячэньня маюцца некаторыя дасягненьні ў выніку пабудовы хлебазаводаў у найбольш буйных гарадох, і гэта дало магчымасьць спажыв. каапэрац. сканцэнтраваць у сваіх руках забесьпячэньне насельніцтва печаным хлебам. Але ўсё нельга яшчэ гаварыць аб скончанасьці будаўнічых працэсаў у гэтай галіне ўжо па адным тым, што пачатыя пабудоваю хлебазаводы ў Гомлі, Віцебску і Оршы яшчэ ня скончаны.

Праведзеная намі якасная характарыстыка гандлёва-тэхнічнае базы асноўных фондаў спажывецкай каапэрацыі дастаткова яскравая для таго, каб зразумець тыя вялізарныя задачы, якія стаяць перад намі ў галіне капітальнага будаўніцтва.

Гэтая праблема, такім чынам, павінна знайсьці сваё вырашэньне ў двух напрамках: па-першае, у адшуканьні неабходных сродкаў для рэалізацыі неабходнага і безадкладнага будаўніцтва ў сыстэме, а таксама ў разьмеркаваньні гэтых сродкаў, з кропкі погляду забесьпячэньня першачарговага будаўніцтва сыстэмы ў цэлым, і, па-другое, неабходна дабіцца такое арганізацыйна-тэхнічнае пастаноўкі гэтае справы, якая накіравала-б уклады капіталу па лініях максімальнае і тэхнічнае і эканамічнае арганізаванасьці.

Агульны абхоп будаўніцтва плянам на 1928-29 г. прадугледжаны ў наступных памерах:

| | Каштоўн. будаўніцтва | Крыніцы фінансаваньня | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Сабекошт. і Ф. Д. К. | Бюджэт | | Асобн. доўгатэрм. крэд. | Банкаўск | | Цэнтра-саюзы | Т-ва парціт | Іншыя |
| | | | Рэсп. | Мясц. | | Камун. банк | Усека-банк | | | |
| 1. ЦРК і Гарсп. т. | | | | | | | | | | |
| а) крамы, магаз і склады . . . | 563 | 113 | — | — | 250 | 170 | — | 30 | — | — |
| б) грамадз. харч. | 355 | 75 | — | 50 | 55 | 75 | — | — | 100 | — |
| в) хлебапяч . . | 415 | 95 | 150 | 50 | 100 | — | 20 | — | — | — |
| **Усяго па ЦРК .** | **1.333** | **283** | **150** | **100** | **405** | **245** | **20** | **30** | **100** | — |
| 2. Сельсп. т-вы | | | | | | | | | | |
| а) крамы і маг. . | 500 | 435 | — | — | — | — | — | 20 | — | 45 |
| б) чайныя . . . | 53 | 48 | — | — | — | — | — | — | — | 5 |
| **Усяго . . . .** | **553** | **483** | — | — | — | — | — | **20** | — | **50** |
| 3. Райсаюзы | | | | | | | | | | |
| Склады . . . . . | 294 | 200 | — | — | 94 | — | — | — | — | — |
| **Усяго па сыстэме** | **2.180** | **968** | **150** | **100** | **499** | **245** | **20** | **50** | **100** | **50** |

Канечне, нельга гаварыць аб поўным абхопе плянам усіх патрабаваньняў сыстэмы ў будаўніцтве. Тым ня менш плян на 1928-29 год закладае пачатак плянавага і досыць значнага будаўніцтва.

У падаўляючай сваёй частцы будаўніцтва выпадае на нізавыя зьвенчакі, што яскрава адзначае ўстаноўку на падвышэньне якасьці абслугоўваньня спажыўца.

З кропкі погляду фінансаваньня належыць падкрэсьліць тое, што ў працівалегласьць таму, калі ў мінулыя гады будаўніцтва ў сыстэме праводзіл ся ў большай частцы ўласнымі сродкамі яе, пачынаючы з 1928-29 г. прыцягнутыя сродкі звонку займаюць у капіталаўкладаньнях пачэснае месца – каля 60 проц.

Каштоўнась асноўных фондаў за мінулыя гады і ў падлічэньні капіталаўкладаньняў 1928-29 г. будзе ў наступных сумах:

| | У тысячах рублёў | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | Б. К. С. | Райсоюзы | Ц. Р. К. | Сельс. т. | |
| 1926-27 . . . . . . . . | 581 | 311 | 1.565 | 1.060 | 3.517 |
| 1927-28 . . . . . . . . | 650 | 505 | 2.030 | 1.543 | 4.729 |
| 1928-29 (плян) . . . . | 750 | 786 | 3.000 | 2.082 | 60.618 |

Сыстэма арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў у галіне будаўніцтва дастаткова поўна вызначана і распрацавана.

Увязка будаўніцтва з пэрспэктывамі разьвіцьця ўсяе працы спажыв. кааппэрацыі, з аднаго боку, і працэсамі разьвіцьця мясцовае гаспадаркі, з другога, распрацоўка каштоўных плянаў, якія павінны грунтавацца на канканкрэтна прапрацаваных матар'ялах па асобных суб'ектах будаўніцтва, безадкладная інвэнтарызацыя ўсяе маёмасьці, распрацоўка тэхна-эканамічнага тыпу будаўніцтва—вось асноўныя напрамкі, якія могуць забясьпечыць выкарыстаньне капіталаўкладаньня і лініі іх рацыянальнага выкарыстоўваньня і максымальнай эфэктыўнасьці.

# НА МЯСЦОХ

Г. Самусевіч

## Некаторыя вынікі скарыстоўваньня крэдыту 1928 году па Гомельшчыне

У сельскую гаспадарку укладваюцца дзяржаваю і сыстэмаю с.-г. крэдыту вялізарныя сродкі. Па Гомельскай акрузе, у прыватнасьці, Гомельскім Сельгасбанкам з пачатку года па 1 чэрвеня, г. зн. за 8 месяцаў, адпушчана крэдытаў звыш мільёна руб.

Зусім зразумела, з гэтага поваду, што дзяржава надзвычайна цікавіцца пытаньнем, да каго гэтыя сродкі трапілі, як выкарыстаны, і які эфэкт яны утварылі ў сельскай гаспадарцы, галоўным чынам, якую ролю адыгрываюць гэтыя сродкі ў абграмаджваньні і калектывізацыі сельскае гаспадаркі і ўзьняцьці гаспадаркі сельскае беднаты і адрыве яе ад кулацкага зажыму і ўплыву.

Для высьвятленьня і вырашэньня пытаньняў, якія пастаўлены крэдытнаю сеткаю Гомельшчыны пад кіраўніцтвам партыйнае арганізацыі у ліпенінжніўні гэтага году зроблена праверка выкарыстоўваньня крэдыту паводле прызначэньня, які атрыманы ў крэдытных таварыствах.

Праверка праводзілася шляхам наведваньня гаспадаркі таго, хто атрымліваў гэтыя крэдыты, і поўнага азнаямленьня з сацыяльным яго станам упаўнаважанымі крэдытных т-ваў.

З 36 крэдытных т-ваў надаслалі матар'ял праверкі толькі 23 т-вы, ды і тыя нявыстарчальна распрацаваны на мясцох. Тым ня менш па гэтых матар'ялах мы можам меркаваць аб працы крэдытных т-ваў і вызначыць шэраг мерапрыемстваў для далейшае працы.

Па гэтых 23 крэдытных т-вах праверана выкарыстоўваньне крэдыту паводле прызначэньня, усяго 14.126 пазык на суму 683.845 руб.

Агульны ітог выкарыстоўваньня крэдыту паказвае наступнае:

З гэтае сумы выкарыстаны пазычнікамі на тую патрэбу, на якую выдадзены грошы,—13443 пазыкі на суму 635.090 руб. Такім чынам, выкарыстаны не паводле прызначэньня ўсяго 683 пазыкі на суму 48.755 р., г. зн. 4,7 проц. усіх пазык і 7 проц усяе сумы.

Куды-ж пайшлі нявыкарыстаныя паводле прызначэньня крэдыты? Праверкаю ўстаноўлена, што 412 пазык (з 683) на суму 30.538 руб. выдаткаваны пазычнікамі на іншыя гаспадарчыя патрэбы двару, напрыклад, атрыманы на каня, а выдаткаваны на пабудову і наадварот, 197 пазык на суму 13.635 руб. выкарыстаны на спажывецкія патрэбы і 74 пазыкі на суму 5.315 руб. выдаткаваны непрадукцыйна. У ліку апошніх ёсьць выпадкі выкарыстаньня крэдыту на куплю гармоніка, на п'янства, на ўстаўку залатых зубоў і г. д.

У гэтым выпадку мы маем справу з простым абуканьнем асобнымі асобамі дзяржавы, і ў адносінах да іх мы абавязаны зараз-жа, па-першае, да тэрміну спагнаць выдадзеную пазыку, па-другое, прыцягнуць да крымінальнае адказнасьці, як за ашуканьне дзяржавы, і, па-трэцяе, шырока паведаміць насельніцтва аб ужытых мерах з апублікаваньнем прозьвішчаў гэтых асоб.

У адносінах да катэгорыі пазычнікаў, якія выкарыстоўваюць крэдыты не паводле прызначэньня, а на спажывецкія патрэбы, неабходна падыйсьці клясава. Беднаце растлумачыць недапушчальнасьць няправільнага выкарыстоўваньня крэдыту, паставіўшы гэтае пытаньне на сходах беднаты

Сераднякоў, якія выкарыстоўваюць крэдыт на спажывецкія патрэбы, неабходна пазбавіць на вызначаны час права атрыманьня крэдыту. У абодвух выпадках належыць у бягучую восень датэрмінова спагнаць крэдыт.

У адносінах да трэцяе катэгорыі пазычнікаў, г. зн. тых, якія выкарысталі крэдыт на іншую гаспадарчую патрэбу, трэба прызнацца, што да некаторае ступені ў гэтым вінавата і наша плянавая праца. Відавочна, мы нявыстарчальна ўлічылі паасобныя гаспадарчыя патрэбы ў крэдыце і гэтым самым прымусілі сялянства браць пазыку на тое, на што даюць, а выдаткаваць яе на тое, у чым гаспадарка адчувае неабходнасьць.

Аднак, нават пры такім становішчы мы ня можам згадзіцца, каб узяты на пабудову крэдыт быў выкарыстаны на куплю каня ці каровы, таму што тэрміны і проценты крэдыту розныя і залежаць ад таго, на якую мэту гэты крэдыт выдадзены. Акрамя таго, крэдыт мае мэтавую ўстаноўку, г. зн. ён выдаецца на тую патрэбу ці галіну сельскае гаспадаркі, якую дзяржава лічыць неабходным у гэты момант разьвіваць і падтрымліваць. З гэтае прычыны бяз згоды таго, хто выдае крэдыт, нельга выкарыстоўваць яго, каму і як захочацца.

Пад ходзячы да гэтае групы пазычнікаў ня зусім строга і клясава, мы ўсё-ж такі павінны ад многіх патрэбаваць спагнаньня крэдыту, пераглядзець тэрміны, проценты і г. д.

Ва ўсялякім выпадку мы ня можам і не павінны пакінуць бяз увагі пазычнікаў, якія выкарысталі крэдыт не паводле прызначэньня, бо гэта можа стварыць вялікую пагрозу нашаму крэдытнаму плянаваньню сельскае гаспадаркі.

Характэрна, што выкарыстоўваньне не паводле прызначэньня, галоўным чынам, ідзе за кошт таго крэдыту, на які быў найбольшы попыт. Зімою і вясною гэтага году сялянства прад'явіла асаблівы попыт на коняй і часткова на кароў. Былі мабілізаваны ўсе магчымасьці для здавальненьня гэтага попыту. Праверка ўстанавіла, што каля паловы (56 проц.) усіх пазык, якія выкарыстаны не паводле прызначэньня, прыпадае на пазыкі, якія выдадзены на рабочую жывёлу. Потым ідуць пазыкі, якія выдадзены на кароў (17 проц); потым на пабудовы (15 проц.) і, нарэшце, пазыкі на насеньне, каля 9 проц. і інш.—3 проц.

Найбольш важным зьяўляецца пытаньне, у якія сацыяльныя групоўкі вёскі накіроўваецца крэдыт. Праверка гэтага пытаньня на мясцох дала наступны малюнак: вызваленыя ў мінулым годзе ад уплаты сельгаспадатку атрымалі крэдыту 36 проц., тыя, што ўносяць сельгаспадатку да 10 руб., атрымалі крэдыту 32 проц., з падаткам ад 10 да 20 руб.—18 проц., ад 20 да 40 р.—9 проц., ад 40 да 75 руб.—3,8 проц., а тыя, что плоцяць сельгаспадатку звыш 75 руб. атрымалі крэдыту—1,2 проц.

Калі лічыць беднякоў, ня толькі якія вызвалены ад сельгаспадатку, але і тых, што плацяць сельгаспадатку да 10 руб., то выходзіць, што 68 проц. крэдыту выдадзена беднаце. Гэта ня дрэнна.

Серадняцкая групоўка, якая плаціць ад 10 па 40 руб. сельгаспадатку, атрымала крэдыту 27,3 проц. Заможная групоўка, якая плаціць падатак ад 40 да 75 руб., атрымала крэдыту 3,8 проц., і, нарэшце, тыя, што плацілі ў мінулым годзе сельгаспадатку звыш 75 руб., якія бязумоўна зьяўляюцца найбольш моцнаю, кулацкою верхавінаю вёскі, атрымалі таксама крэдыт у разьмеры 1,2 проц.

Адгэтуль выходзіць, што нізавая крэдытная сетка акругі ў працягу першага паўгодзьдзя 1927-28 гаспадарчага году яшчэ крэдытавала ў даволі значным процанце (3,8 і 1,2, г. зн. усяго 5 проц.) заможную кулацкую верхавіну вёскі.

Праўда, гэта было ў большай сваёй частцы да X партыйнага зьезду. Аднак, наглядаюцца выпадкі крэдытаваньня заможных элемэнтаў вёскі і пасьля таго, калі дадзены былі дакладныя і ясныя дырэктывы аб спыненьні крэдытаваньня верхавіны вёскі.

На мясцох мы наглядаем, з аднаго боку, значную актыўнасьць заможнае верхавіны вёскі ў імкненьні выкарыстаць дзяржаўную крэдытную дапамогу, ужываючы для гэтага ўсе мажлівыя хітраваньні, ашуканьне і ўсялякі ўплыў на няўстойлівы элемэнт у сельскіх саветах, КСУ і ў самых крэдытных таварыствах і ў РВК, а з другога боку,—значны лік працаўнікоў яшчэ нявыстарчальна ўсьвядомілі клясавую лінію партыі і савецкае ўлады на вёсцы і ў практычнай працы дапушчаюць вялікія скажэньні гэтае лініі.

У нас маюцца не адзінакавыя выпадкі, калі сельсавет і КСУ хадайнічаюць перад крэдытным таварыствам аб выдачы крэдыту гаспадарцы, аб якой загадзя вядома, што яна зьяўляецца заможнай і нават кулацкай, у даведках, якія выдаюцца сельсаветамі і КСУ, не паказваецца поўнасьцю маемасьць пазычніка. Пры такім становішчы крэдытнаму таварыству, у раёне якога маецца 2-3000 і нават звыш 5.000 сялянскіх гаспадарак, надзвычайна цяжка часам адрозьніць кулака ад серадняка, асабліва ва ўмовах цякучасьці складу працаўнікоў крэдытных т-ваў. Нельга абыйсьці моўчкі паасобныя выпадкі патрабаваньняў з боку некаторых РВК крэдытаваць паасобных грамадзян, нявыстарчальна перакanаўшыся адносна іх сацыяльнага стану.

Асабліва гэта наглядаецца ў адносінах да крэдытаваньня на агнятрывалыя пабудовы. Як вядома, пры РВК ёсьць тэхнікі агнятрывалага будаўніцтва. Яны ўсялякім чынам разьвіваюць агнятрывалыя пабудовы, але часта ня там, дзе належыць.

Зразумела, каменны дом абыходзіцца яшчэ даволі дорага, і, зразумела, бядняк ня ў стане будаваць яго. З гэтага лёгічны выхад: давай крэдыт заможнаму хутараніну.

Асабліва шырока такое будаўніцтва разьвівае тэхнік агнятрывалага будаўніцтва Веткаўскага РВК, праўда, пры трывалым супраціўленьні Веткаўскага сельгаскрэдытнага т-ва. Агнятрывалае будаўніцтва і крэдыты на яго павінны ісьці ў калгасах. Гэта трэба, нарэшце, усьвядоміць усім будаўнікам.

У барацьбе з скажэньнем лініі партыі і савецкае ўлады ў крэдытнай працы мы не заўсёды маем неабходнае падтрыманьне з боку паасобных судова-сьледчых працаўнікоў на мясцох. Мы прывядзем толькі два прыклады:

У пачатку бягучага году ў выніку рэвізіі Васілевіцкага сельгаскрэдытнага т-ва былы старшыня гэтага таварыства Брэль адданы пад суд за крэдытаваньне кулакоў за кошт фонду беднаты. Справа перададзена сьледчаму—і што-ж? Сьледчы справу спыніў, не паведаміўшы аб гэтым сельгасбанк. Пасьля паўторнае праверкі гэтага-ж таварыства аказалася, што кулакі працягваюць крэдытавацца. Акрамя таго, выяўлены яшчэ шэраг злачынстваў былога старшыні Брэля. Справа зноў у сьледчага...

Другі факт: кулак падае у нарсуд Лоеўскага раёну іск да Уборкаўскага сельгаскрэдытнага т-ва на ўзварот яму ўкладу ў 31 р. 65 к. Уборкаўскае сельгаставарыства два гады назад ліквідавалася па віне тых-жа мясцовых кулакоў, якія тады кіравалі таварыствам. Зразумела, з ліквідацыяй т-ва прапалі і ўклады. У гэтым годзе мы арганізавалі ва Уборках сельгаскрэдытнае т-ва. Судзьдзя прысуджае спагнаць з гэтага т-ва на карысьць кулака страчаны ў былым т-ве ўклад, хоць судзьдзі добра вядома, што новае таварыства не адказна за даўгі былога таварыства.

Без рашучага падтрыманьня і кіраўніцтва раённых партыйных арганізацый, без рашучае пакаральнае меры, у тым ліку і судовай, за скажэньне крэдытнае палітыкі мы ня зьнішчым выпадкаў крэдытаваньня кулацкае верхавіны вёскі.

Для тага, каб правільна арганізаваць барацьбу з выкарыстоўваньнем неадпаведна з прызначэньнем крэдыту, які атрымоўваецца сялянствам, трэба раней за ўсё вывучыць прычыны такога зьявішча і сацыяльны склад гэтых асоб.

Праверка гаспадарак устанавіла, што каля 43 проц. асоб, якія выкарысталі крэтыт неадпаведна з яго прызначэньнем, адносяцца да асоб, якія былі ў мінулым годзе вызвалены ад сельгаспадатку; 33 проц.—да тых, якія плацілі да 10 руб. сельгаспадатку; 19 проц.,—якія плацілі ад 10 да 20 руб.; 4 проц.,—якія плацілі ад 20 да 40 руб. і 1 проц. да тых, якія павінны былі плаціць звыш 40 руб сельгаспадатку.

Такім чынам, мы бачым, што ў гэтай справе вінаваты ўсе пласты сялянства. Але процант беднаты (43 і 33=77) даволі высокі і перавышае процант крэдыту, які атрыманы беднатою (68).

З гэтага вынік: мы павінны заклікаць у першую чаргу ўсю беднату да арганізаванага адпору хваравітых зьявішчаў, раней за ўсё ў масе самае беднаты, а да іншых груповак, акрамя растлумачэньня,—ужыць і меры ўзьдзейнічаньня: датэрміновае спагнаньне, закрыцьцё крэдыту і г. д.

Цікава, мы часта наглядаем, побач з сур'ёзным падыходам і зразуменьнем беднатою шырокае дзяржаўнае дапамогі ў справе ўзьняцьця гаспадаркі беднаты і наогул сельскае гаспадаркі, паасобныя выпадкі імкненьня некаторых беднякоў выкарыстаць гэту дапамогу не для ўзьняцьця свае гаспадар і, не для таго, каб утварыць гаспадарчы эфэкт у гаспадарцы і ў тэрмін вярнуць пазыку для таго, каб яе можна было выдаць другому бедняку,—а для таго, каб часова палепшыць сваё беднацкае становішча, пражыць крэдыт і трымаць сваю гаспадарку на такім узроўні, каб ня было з чаго спагнаць крэдыт. Нам вядома некалькі і такіх беднякоў, якія ня спыняюцца перад тым, каб па некалькі разоў зьезьдзіць у Гомель, абыйсьці ўсе інстанцыі з патрабаваньнем загадаць крэдытнаму таварыству выдаць яму крэдыт, як бедняку. Ёсьць і такія, якія па некалькі разоў ужо былі ў Менску ў ЦВК і прывозілі адтуль загад аб выдачы крэдыту па-за чаргой.

Паводле праверкі аказваецца, што гэтыя хадакі ўжо даўно атрымалі крэдыт у найбольшым разьмеры і гэты крэдыт пусьцілі на вецер. Няма карысьці ў гаспадарцы і няма чым пакрыць ссуды. На шчасьце такія зьявішчы налічваюцца адзінкамі. Самая бедната ня церпіць і не падтрымлівае такіх вырадкаў у сваім асяродзішчы.

---

**Магпрам**

# Кустпрамкаапэрацыя Магілеўшчыны да 10-годзьдзя існаваньня БССР

У прамысловасьці Магілеўскае акругі значную долю займае саматужная прамысловасьць і яе авангард—саматужна-прамысловая каапэрацыя.

Апошняя пачала разьвівацца толькі 3 гады таму назад, і за гэты кароткі тэрмін яна мае значныя посьпехі ў справе арганізацыі саматужнікаў у арцелі і т-вы, канцэнтрацыі збыту вырабаў па каапэрацыйнаму рэчышчу, узбуйненьню арцеляў і паляпшэньню матар'яльнага побыту каапэраваных у арцэлі

Пачатак работы прамкаапэрацыі Магілеўшчыны адносіцца да пэрыоду арганізацыі саюзу 25/X-1925 г., які аб'яднаў 11 арганізацый; з таго часу нясупынна расьце ўся сыстэма, што характарызуецца наступнымі асноўнымі момантамі.

На 1/X-26 г. было 56 арцеляў і 556 сяброў, на 1/X-27 г.—75 арцеляў і 845 сяброў, на 1/X-28 г.—116 арцеляў і 1580 сяброў За апошнія 3 гады лік арцеляў узрос у 2 разы, лік сяброў у 3 разы

Адначасова расьце і каапэраваньне саматужнікаў адзіночак.

На 1/X-26 г. было 9 т-ваў і 1520 сяброў, на 1/X-27 г.—15 т-ваў і 2819 сяброў, а на 1/X-28 г.—15 т-ваў і 3456 сяброў.

Паявыя капіталы сыстэмы за 3 гады ўзрастаюць хутка як па саюзу, так і нізавой сетцы:

| АРГАНІЗАЦЫІ | На 1/X-1926 г. | | На 1/X-1927 г. | | На 1/X-1928 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сума | % да 1926 г. | Сума | % да 1926 г. | Сума | % да 1926 г. |
| Саюз | 135.000 | 100,0 | 6.564 | 486 | 25.611 | 1897 |
| Кр. пр. т-вы | 1.302.000 | 100,0 | 26.085 | 200 | 44.500 | 340 |
| Арцелі | 4.703.000 | 100,0 | 76.040 | 162 | 130.000 | 277 |
| **Усяго** | **6.140.000** | **100,0** | **108.689** | **177** | **200.111** | **326** |

Роўналегла з узростам каапэраваных саматужнікаў значна павялічваецца іх валавая прадукцыя і іх удзел у абагуленым сэктары звароту, за лік выцясьненьня прыватных гандляроў.

Звароты саматужна-прамысловае каапэрацыі Магілеўшчыны наступныя:

| ЗВАРОТЫ | За 1925-26 г. | | За 1926-27 г. | | За 2927-28 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сума | % да 1925/6 г. | Сума | % да 1925/6 г | Сума | % да 1925/6 г. |
| Прад. тав. саюзам | 361.000 | 100 | 990.000 | 274,0 | 2.425 000 | 672,0 |
| „ „ т-вамі | 140.000 | 100 | 344.000 | 245,0 | 592.000 | 420,0 |
| „ выраб. арцелі | 423.000 | 100 | 1.435.000 | 340,0 | 2 628 000 | 621,0 |
| Выдадзена пазык т-вам | 160.000 | 100 | 853.000 | 533,0 | 1.020.000 | 637,0 |
| **Увесь зварот сыстэмы** | **1.085.000** | **100** | **3.622.000** | **334,0** | **6.665.000** | **614,0** |

Да гэтага часу ахоплены значна промыслы: скураны, шавецкі, кравецкі, харчавы, смалакураны.

Слаба ахоплены вясковыя промыслы, як агнетрывалы і дрэваапрацовачны. Разьвіты новыя промыслы, як галянтарэйны і трыкатажны.

Дагэтуль каапэравана ў арцелі 20 проц. усіх саматужнікаў акругі.

У працягу апошняга году прамкаапэрацыя пачынае ўцягваць у арцелі жанчын і моладзь, у якасьці вучняў.

На 1/X-28 г. лік жанчын складаў 9,6 проц. сяброў арцеляў, а вучні 8,5 проц., і зараз лік іх узрос яшчэ больш.

Замест існаваўшых у горадзе раней дробных аднародных арцеляў зарганізованы буйныя, шляхам узбуйненьня дробных і прыёму новых сяброў.

У раёнах таксама пачало праводзіцца узбуйненьне. Зараз маем наступныя буйныя арцелі:

1 скурарцель—150 чал., 1 шавецкая „Чырвоны мэханік"—250 чал., 1 кравецкая „Вытворац"—70 чал., 1 мебельная „Перамога"—40 чал. 1 смалакураная „Кастрычнік"—33 чал.

У бліжэйшы час будуць узбуйнены да 30 чал. і будуць пераведзены на выраб масавых гатункаў, як вопыт, шавецкія арцелі ў Быхаве, Шклове і Касьцюковічах і кравецкія ў Быхаве, Чавусах і Крычыве.

Поруч з посьпехамі маем недахопы ў галіне культпрацы, якая дагэтуль праводзілася слаба. Але зараз ужыты меры да ўзмацненьня гэтае работы ў арцелях. Ужо арганізованы культкамісіі, гурткі па ліквідацыі няпісьменнасьці і паліт. асветныя гурткі, насьценгазэты і г. д.

Для гэтае мэты маецца спэцыяльны інструктар—культурнік. Таксама узмацнёны апарат інструктароў па арганізацыйнаму абслугоўваньню сеткі, які быў недастатковым.

Шэрыкаў

# Жыльлёва-каапэрацыйнае будаўніцтва Бабруйскае акругі БССР

Жыльлёва-будаўнічая каапэрацыя Бабруйскае акругі ўзнікла яшчэ ў 1925 годзе. Фактычная-ж дзейнасьць адносіцца да 1927 году з 4-мя РЖСКТ—93 пайшч. і 2 арэнд. таварыствамі—37 пайшч. У гэты час быў створан акржылсаюз, які хуткім тэмпам пачаў разьвіваць і пашыраць усю сетку і ўжо на 1/I-1927 г., г. зн. у працягу году, лічба РЖСКТ дасягнула 8—335 пайшчыкаў і лік ЖАКТ 6—319 пайшчыкаў. Паявы капітал дасягнуў 18.000 р.

На 1/I-1928 г. акржылсаюз ужо аб'яднаў 9 РЖСКТ пайшч. і 11 ЖАКТ 875 пайшч.; паявы капітал з 18.000 р. узрос да 58.000 р. Гэтым параўнаньнем мы бачым хуткі тэмп росту сеткі і паявога капіталу, гэта значыць і зацікаўленасьць працоўных у каапэрацыйным будаўніцтве. Але з гэткім тэмпам мы пасунуліся да 1928 г., а тут стой. Уся зацікаўленасьць прападае ў сувязі з застоем у будаўніцтве, у сувязі з шалёным звужваньнем крэдытаў, а менавіта: у 1926 г. было адпушчана 185.000 руб., у 1927 г.—214.000 р., у 1928 г.—182.000 і на 1929 г. маем 102.000 руб. У 1928 годзе 5 РЖСКТ зусім будаўніцтва не ўтваралі, а тры т-вы наогул бязьдзейнічалі. На 1929 г. таксама пакуль 5 т-аў пры прамысловых прадпрыёмствах пакінуты на бязьдзеяньне, а магчыма і распад, бо ня відаць пэрспэктыў, а жылкрызіс на гэтых прадпрыемствах вялізарны. Прыкладам, два шклозаводы „Кастрычнік" і „Камінтэрн"—там рабочыя купляюць па вёсках лазьні і будуюць халупкі, якія зусім ня прыстасованы да ніякіх санітарных нормаў. Такіх халуп ужо 10-15 пастаўлена, і жывуць у іх. На двары каля гэтых халупак робяцца цэгляныя печы (расійскага ўзору) для зарыхтаваньня ежы, бо ў хаце няма месца паставіць іх.

Вышэйданыя веды аб паступовым звужваньні крэдытаў на рабочае жылбудаўніцтва па Бабруйскай акрузе яскрава паказываюць, што ня гледзячы на тое, што маніфэст ЦБК гаворыць за павялічэньне крэдытаў на рабочае жыльлёвае будаўніцтва, падрываецца разьвіцьцё жыльлёвае каапэрацыі.

Новы закон аб жыльлёвай палітыцы ад 4 студзеня 1928 г., папулярызаваны па ўсёй сетцы і прадпрыемствах, ухвалены шырокімі працоўнымі масамі, але яго посьпех можа залежыць у дадзеным выпадку, у нас у Бабруйску ад ступені забесьпячэньня крэдытамі—абавязкі па гэтаму закону пайшчыкамі, бязумоўна, былі-б выкананы.

Ня гледзячы на ўсё гэта, сыстэма ў поўнай меры моцная, арганізацыйна наладжана, зроблены буйны пераход з драўлянага дробнага будаўніцтва на буйнае каменнае і ўзбуйненае драўлянае.

Адпушчаныя сродкі 1928 г. 182.000 р., з дадаткам сродкаў уласных і здабытых рознымі блыканьнямі, былі зьвернуты на пабудову рабочага пасёлку дрэваапрацоўчага камбінату і 3-павярховага 42-кватэр. дому, які будуецца па новаму слову тэхнікі і быту. Гэты дом у Бабруйску зьяўляецца найвялікшым. Ён мае агульную мойку для бялізны, сушылку, ванныя, баню і клюб. Усяго акржылсаюз за тры гады пабудаваў і скончае 174 кватэры. Апрача гэтага, пабудованы цэлы шэраг культурных устаноў.

Першыя вынікі праверкі выкананьня ўрадавае дырэктывы аб зьніжэньні каштоўнасьці будаўніцтва на 15 проц. далі 6,7 проц., але прадбачыцца гэты процант павялічыць.

Далёка непараўнальна становішча жыльлёва-арэнднае каапэрацыі, тут трэба сказаць, мы маем вялізарныя дасягненьні, як з боку захаваньня і аднаўленьня муніцыпальнага фонду, так і ў гаспадарчых і культурна-бытавых

адносінах. Затраты на рамонт дасягнулі 175.000 р. Маецца значнае пашырэньне жыльлёвае плошчы за лік перапляніровак, прыстасаваньня кухань, карыдораў і др. пад жылыя пакоі.

Культурна-бытавая работа ўзяла плянавы характар.

Для паляпшэньня дзейнасьці будаўнічае каапэрацыі акржылсаюз узьняў пытаньне перад адпаведнымі органамі аб сканцэнтраваньні ўсіх сродкаў на жыльлёвае будаўніцтва акругі пры жылкаапэрацыі, што, бязумоўна, па шэрагу прычын дасьць добрыя вынікі, а акрамя таго, а) будзе мецьбольш плянавае жыльлёвае будаўніцтва; б) ухіліцца разнабою ў кіраваньні жыльлёвым фондам; в) разгрузіць горсавет ад маруднае работы па атрыманьню кватэрнае платы; г) прыцягне больш сродкаў працоўных да жыльлёвага будаўніцтва, прапарцыянальна сродкам, якія выдаткуюцца на жыльлёвае будаўніцтва акрвыканкомам, і ў дадзеным канкрэтным выпадку палепшыцца грамадзкая думка працоўных да жыльлёвае каапэрацыі.

Мы бачым факты вострага жыльлёвага крызісу на шкляных заводах „Кастрычнік“ і „Камінтэрн“ і лічым неправільным змоўчыць, што не адпушчана вядомых крэдытаў Фубра гэтым заводам. Калі праводзілася кампанія па нашай сетцы аб новым законе намнажэньня паю, усе рабочыя заводаў выказаліся за неабходнасьць выкарыстоўваньня гэтых сродкаў не гаспадарчымі органамі, а праз існуючыя жыльлёвыя каапэратывы. Мноючы год працы будаўніцтва гаспадарчых органаў на сродкі Фубр‘а, думаю, што не памяшае падвесьці вынік гэтаму будаўніцтву і ўстанавіць мэтазгоднасьць.

Яшчэ трэба застанавіцца на арганізацыйным пытаньні намнажэньня паю і ўсіх разрахункаў у РЖСКТ. Я лічу што мы яшчэ ў гэтым пытаньні не маем пэўных форм. Павінна быць нешта адзінае і цьвёрдае, бо на месцы ў практыцы працы даводзіцца тлумачыць пытаньне парознаму.

Шырэй самакрытыку—палепшым працу!

---

**Рыгор Вярхоўскі**

# На пераломе

У гэтым годзе па Віцебскай акрузе намечана кнігагандлёвых пунктаў 67, з 9 крамамі, 15 аддзеламі і 43 паліцамі.

З разгортваньнем кнігагандлёвых пунктаў мы маем шэраг цяжкасьцяў, якія тармазяць разьвіцьцё кнігагандлю, што тлумачыцца адсутнасьцю добрага памяшканьня ў спажывецкіх таварыствах. Таварышаў, якія скончылі кніжныя курсы ў Менску, няма, а працаўніка, які-б ведаў больш менш кніжную справу ў цяперашні час вельмі цяжка знайсьці.

Мы маем ненармальнае зьявішча з выкарыстоўваньнем працаўнікоў-кніжнікаў, у нас маецца шмат зьяў, калі кніжніка садзяць за касіра на галянтарэйны аддзел і іншую працу ў спажывецкай краме. Калі-ж разьвіваць кніжны гандаль, пісаць заявы на кнігі, сачыць за попытам на кнігі і за апошнімі навінкамі кніжнага рынку, рыхтавацца да розных сьвят і палітычных кампаніі? Праца не па спэцыяльнасьці, на якой скарыстоўваюцца працаўнікі-кніжнікі, ніколі ня дасьць магчымасьці разьвіць кніжны гандаль. Трэба дабіцца, каб нашымі каапэратарамі, якія жадаюць у першы час адразу апраўдаць выдаткі на ўтрыманьне прадаўца кніжніка, гэта не рабілася.

На мясцох яшчэ няма дастатковае сувязі з партыйнымі камсамольскімі арганізацыямі. Яшчэ слабая дапамога мясцовых арганізацый у кніжным гандлі спажывецкіх таварыстваў.

Няма яшчэ добрых кніганошаў, якія-б хадзілі па вёсках распаўсюджваць танную кнігу, плякаты. Прапаганда кнігі праз хату-чытальню, бібліатэку, насьценную газэту яшчэ адсутнічае.

Вясковы настаўнік, аграном, лекар не наблізіліся ад кніжнага гандлю ў спажывецкім таварыстве. А іх трэба паблізіць, трэба скарыстаць у працы па рэкамэндацыі добрых кніжак па паасобных галінах ведаў. Вельмі мала робіцца на мясцох, каб зацікавіць кніжнагандлёвай працай вясковую інтэлігэнцию і перадавых тавгрышаў грамадзян вёскі.

Вітспажыўсаюз у гэтым годзе асабліва сур'езна ўзяўся за разьвіцьцё кніжнага гандлю. Пабудова спэцыяльнага памяшканьня пад кніжна-папяровую базу дасьць магчымасьць лепш паставіць працу з выкананьнем заяў на кнігі і камплектаваньне кніжных паліц і аддзелаў па сетцы.

Арганізаваны спэцыяльныя кніжна-папяровыя аддзелы пры базісных складах у Гарадку і Лепелі са спэцыяльнымі працаўцікамі. Пастаўлена пытаньне ў акругкоме партыі аб кніжным гандлі, што дае надзею на дапамогу мясцовых арганізацый у справе шырокага распаўсюджаньня кнігі. Маецца дагаворанасьць з рэдакцыяй мясцовае газэты „Заря Запада“ аб зьмяшчэньні сьпіскаў новых танных кніжак.

Пачата праца з навінкамі танных кніг, якія атрымліваюцца з цэнтрасаюзу кніжнай базай. У пачатку жніўня праведзена нарада аб кнігагандлёвай рабоце саюзу сумесна з інструктарамі, а ў кастрычніку адбылася нарада аб якасьці і мэтадзе інструктаваньня кніжна-гандлёвых пунктаў.

Дзякуючы добраму кі.аўніцтву і шырокаму практычнаму асьвятленьню пытаньняў кніжнага гандлю сеткі, пачатак сэзону праходзіць ажыўлена з боку крам і некаторых аддзелаў. Дрэнна пакуль што з паліцамі, якія яшчэ сьпяць, але іх сон парушаны аргаддзелам. Маем надзею, што і яны прадзяручь вочы ад спаньня, пачнуць працаваць.

Кніжнапапяровай базай пакуль што заявы на падручнікі і літаратуру выконваюцца прыблізна на 70—75 проц. Праўда заявы карэктуюцца, бо працаўнікі яшчэ вельмі мала вопытна напрактыкаваны, запытваюць вельмі вялікую колькасьць кніг, што можа затаварыць спажывецкія таварыствы.

Маецца дагаворанасьць з поштай, каб спажыв. таварыствы з 1 кастрычніка пачалі працаваць па прыёме падпіскі на газэты і часопісы. Літаратура, якой не дастае, галоўным чынам беларуская, бярэцца ў мясцовым аддзяленьні Белдзяржвыдаведцтва дробнымі колькасьцямі, бо чакаць з Менску ад Белдзяржвыдавецтва праходзіць многа часу.

Выкананьне заявак на літаратуру спажсаюзам трэба прысьпяшыць. Для гэтага трэба Белкаапсаюзу даць дастатковую колькасьць працаўнікоў у Менскую кніжную базу, бо мы ведаем, што яна ледзьве справляецца з працай.

Віцебскі спажывецкі саюз прыняў цалкам кантрольныя лічбы Белкаапсаюзу. Кнігазварот па Віцебскай акрузе прадугледжаны ў 34.300 р. (без каляндара і кааплітаратуры). Мы маем надзею, што мы гэтыя лічбы выканаем.

# КААПЭРАЦЫЯ ЗА МЯЖОЮ

Карл Біттэль

## Гандаль прадуктамі харчаваньня ў Нямеччыне

Па тых статыстычных ведах і ацэнках, якія маюцца, у Нямеччыне ў 1926 г. спажыўцом у розьнічным гандлі прададзена тавараў на 28,45 мільярдаў марак. У гэтым продажы ўдзельнічала 774.000 крам з 1665800 служажачымі. Лепшы знаўца ў гэтай галіне прафэсар Юліус Гірш (Бэрлін), вылічваючы, што пры гэтым звароце надбаўкі розьніца складае 27,6 проц. (гэта значыць 7,85 мільярдаў марак), а воптавыя надбаўкі, апрача таго, яшчэ 10-15 проц. (примерна 3,0 мільярады.). Пасрэдніцкія зьвенчакі, такім чынам, прапусьцілі каля 10,85 мільярдаў пры каштоўнасьці прадукцыі ў 17,6 мільярдаў. Вялізнае ўздаражаньне ўсіх тавараў з-за гандлёвае сеткі.

### Абхоп і звароты гандлю рэчамі першае неабходнасьці

З вышэйпаданых зваротаў каля 13,5 мільярдаў падае на гандаль рэчамі першае неабходнасьці і напіткі, на тэкстыльныя тавары 8 мільярдаў, а астатнія 40—на розныя іншыя таварныя групы. Сюды не ўваходзяць хлеб і мяса, таму што гандаль гэтымі прадуктамі вытвараецца непасрэдна прадукцэнтамі—пекарамі і мясьнікамі, якія работаюць у большчасьці выпадкаў саматужным спосабам. Суму іхніх зваротаў можна лічыць у 8,5 мільярдаў. Апрача гандлёвых дамоў, якія гандлююць living рознымі таварамі, малочных, кандытэрскіх, рыбных і вінных магазынаў, па ведах 1926 г., налічвалася 250 400 прадпрыемстваў з 440.000 служачых са зваротам у 8,8 міліярдаў марак.

Цікава адзначыць, што гандлёвыя дамы мелі зварот у 1,5 мільярдаў, спажыўгаварыствы ў 1 мільярд, вытворчыя каапэратывы ў 100 мільёнаў. У зваротах спажыўтаварыстваў удзельнічалі абодва цэнтральныя саюзы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) Цэнтральны саюз нямецкіх каапэрацыйных аб'яднаньняў. Гамбург—Гэг . . . . . . . . . . . | 1086 | 2,91 м. | 881373 |
| 2) Дзяржаўны саюз нямецкіх спажывецкіх аб'яднаньняў Кельн . . . . . . . . . . . . . . . . | 275 | 0,78 | 16452 |

Такім чынам, можна лічыць, што нямецкія спажывецкія таварыствы ў розьнічным гандлі ўдзельнічалі ня больш чым 3—4 проц. у забесьпячэньні тымі таварамі, якімі яны, галоўным чынам, гандлююць. Ці зьмянілася адносная доля ўдзелу каапэрацыі ў забесьпячэньні за апошнія гады, на гэта трэба адказаць хутчэй адмоўна. Ня гледзячы на абсалютнае павялічэньне зваротаў спажывецкіх таварыстваў, тэмп іх разьвіцьця быў недастаткова інтэнсыўны ў параўнаньні з тымі посьпехамі, якія розьнічны гандаль Нямеччыны, наогул, меў за апошнія гады. Пранікненьне буйнага капіталу ў гандлёвую сфэру, стварэньне буйных прадпрыемстваў і ўжываньне новых мэтадаў у працы высунула гэтыя капіталістычныя прадпрыемствы, паставіўшы іх у перадзе каапэрацыі.

### Гандлёвыя выдаткі

Устанавіць сапраўдныя гандлёвыя выдаткі надае вялікую труднасьць. Камітэт прадстаўнікоў ураду і рэйхстагу, які ўжо некалькі год займаецца гэтым пытаньнем, да гэтага часу нічога не абвясьціў аб выніках свае працы. Цытаваныя вышэйпаданыя лічбы прафэсара Гірша зьяўляюцца адзінымі, якімі можна карыстацца. Вялізарны памер гандлёвых выдаткаў здольны

выклікаць трывогу, і гандлёвыя колы яшчэ доўга будуць мець падставы хаваць свае гандлёвыя і бухгальтэрскія кніжкі ад чужых вочаў. Калі на зьезьдзе ў кастрычніку прадстаўнікоў розьнічнага гандлю профэсар Гірш прывёў паданыя лічбы,ён спаткаў гарачыя пратэсты з бокуўдзельнікаў зьезду.

Але прафэсару Гіршу вядомы матар'ялы камітэту па досьледу, і ён заявіў, што на гандлёвыя выдаткі, прыбытак і таварныя ўцечкі ідзе шостая частка нацыянальнага прыбытку, што гэтыя выдаткі ня толькі не зьмяншаюцца, але, наадварот, яны маюць тэндэнцыі да павялічэньня. Тут адна з буйнейшых праблем сучаснае гаспадаркі—пры наліччы зьмяншэньня выдаткаў у масавай вытворчасьці факт павялічэньня гандлёвых выдаткаў. У гандлі неабходна неадкладная энэргічная рацыяналізатарская праца.

Раней усяго неабходна пазнаёміцца з гандлёвымі выдаткамі. Надзвычайна цікавыя досьледы былі па гэтаму зроблены ў Амэрыцы. Там у гэтай адносіне пайшлі так далёка, што ў гандлёвым укладзе паказаны точныя нормы выдаткаў.

Важнейшым паказальнікам гаспадарчага прадпрыемства служыць сума звароту, якая падае на аднаго супрацоўніка. Утрыманьне пэрсаналу зьяўляецца самым значным артыкулам гандлёвых выдаткаў і складае наогул па адносіне да звароту 5 проц., у гандлёвых дамох нават у падвойным памеры (10 проц.).

Сярэдняй нормай звароту на аднаго служачага ў прадуктовым гандлі ў Нямеччыне лічылі 20.000 марак у год.

Па ведах саюза гандлёвых таварыстваў „Edeka" у Бэрліне, куды ўваходзіць 250 прадпрыемстваў, сярэдняя норма на аднаго супрацоўніка таксама выведзена ў суме 20714 марак.

Спажывецкія таварыствы цэнтрасаюзу да вайны пры разьмеркаваньні тавараў (уключаючы пэрсанал складаў і транспарту) лічыліся з нормай 22.000 на адну штатную адзінку,—што пры сучаснай валюце выказалася б па крайней меры сумаю ў 33.000 марак. У 1924 годзе—11.800 марак і ў апошнія два гады 19.800 марак і 22.600. Калі мы будзем мець на ўвазе толькі разьмеркавальны апарат, дык, канечне, лічбы будуць падвышацца—31.400. Рэкордныя лічбы ў гэтай адносіне дае спажывецкае таварыства „Уперад" у Нямеччыне, якое стаіць на трэцім месцы і якое яшчэ ў 1924-25 г. паказала зварот у 31.980 марак на адну штатную адзінку (толькі выдаткі па аддзяленьнях без цэнтральных складаў, без транспартаў і інш) і ў апошнім 1927-28 годзе—42.730 марак.

У гэтым апэрацыйным годзе ў цэлага шэрагу нямецкіх спажывецкіх аб'яднаньняў адзначана паніжальная тэндэнцыя гэтае нормы. Так у Саксонскім спажывецкім саюзе ў апошнім квартале, ня гледзячы на павялічэньне зваротаў амаль на 14 проц., норма нагрузкі на супрацоўніка пала на 5 проц. Неабходна адзначыць, што пры заключэньні дагавораў з прафсаюзамі спажывецкія таварыствы патрабуюць устанаўленьня нормаў у 42.000 марак.

Іншым важным мерылам зьяўляецца зварот, які даводзіцца на адну краму. Па прыватных няма ведаў; цэнтральны саюз спажывецкіх аб'яднаньняў з тысячаю аб'яднаньняў і 9.200 разьмеркавальных пунктаў дае за апошнія тры гады наступныя звароты у паасобных крамах:

72.500, 85.000 і 95.500 марак за 1927 г., да вайны адпаведная лічба была 95.000 марак, што пры сучаснай валюце раўнялася 143.000 марак.

Надзвычайнае скарачэньне зваротаў, якія даводзяцца на адну краму, паказвае, што разьмеркавальны апарат спажывецкіх таварыстваў у параўнаньні з даваенным часам недастаткова нагружаны; таксама і зьмяншэньні зваротаў, якія кладуцца на адну штатную адзінку, зьяўляюцца даказальнікам таго, што спажывецкія саюзы ў гэтай адносіне не дасягнулі даваеннага гаспадарчага ўзроўню. Наступным важным паказальнікам зьяўляецца хуткасьць звароту. Паскарэньне звароту больш усяго характарызуе працэс гандлёвае рацыяналізацыі. Менавіта ў гэтым больш усяго

адбіліся посьпехі рацыяналізацыі ў Амэрыцы. На першых часох, канечне, цяжка знайсьці аднародную форму разьліку. У Нямеччыне гэта адбываецца такім шляхам, што ўстанаўляюць адносіну кашгоўнасьці таварных запасаў па пакупных цэнах (да звароту), гэта значыць да продажных цэн. Напрыклад, калі ў сярэднім запасе тавару паміж пачаткам і канцом году ацэніваюць у 80.000 марак, а зварот агульны складае 40.000 марак, дык хуткасьць звароту будзе 5. Памылка ў тым, што пры гэтым разьліку неабходна было-б зьняць тыя 20—30 проц., якія складаюць надбаўкі на продажныя цэны. Пакідаючы гэту памылку ў баку, статыстыка«Edeka» дае за 1927 г. хуткасьць звароту ў 8,5 раз, пры гэтым цікава адзначыць, што самыя дробныя прадпрыемствы, з 1-2 служачымі, маюць найвялікшую хуткасьць звароту, што трэба тлумачыць хранічным недахопам капіталу, якія абставіны робяць іх «добрадзецельнымі за патрэбы». Буйныя прадуктовыя магазіны, з колькасьцю служачых больш 10, маюць хуткасьць звароту ў 6,5 раз у год. У амэрыканскай статыстыцы мы знаходзім адпаведныя веды для колёніяльных і гастранамічных магазынаў—11,15 і нават 16-разавую хуткасьць звароту. Дзіўным чынам нямецкія спажывецкія саюзы ў сваёй статыстыцы ня прыводзяць ніякіх ведаў аб гэтым. У штогодніку за 1926 г. Гэнрых Каўфман гаварыў, што хуткасьць звароту «пакідае жадаць многага». Клейцыг аценьвае хуткасьць звароту па спажывецкім саюзе лічбай 10. Адпаведная лічба Цюрынгскай статыстыкі для разьмеркавальных прадуктовых пунктаў—гэта 6,8 раз, што дужа мала. Таксама і ў гэтай адносіне можа служыць узорам спажывецкі саюз «Уперад» у Дрэйзіне, які прыводзіць у сваю справаздачу веды аб агульным звароце сваіх разьмеркавальных пунктаў за апошнія чатыры гады: 14,64; 17,80, 19,80 і 18,29—за 1927-28 г. Характэрна, што самыя лепшыя вынікі былі дасягнуты ў пазамінулым годзе. Нязвычайныя лічбы былі атрыманы ў паасобных прадуктовых крамах. Менавіта па 27 крамах 24-30 разоў, у 26 крамах—30-36 зваротаў, па 11 крамах—нават вышэй 36 разоў, у мясных крамах зварот дасягнуў 48-112 разоў. Такім чынам мы мелі тут рэкордныя лічбы.

Займёмся цяпер найбольш важнымі гандлёвымі выдаткамі. Досьлед „Edeki“ дае сярэднюю стаўку ў 9 проц:, з іх 2,9 проц. на пэнсію, 2,6 проц. на арэнду. Гэтыя нявысокія лічбы зьяўляюцца вынікам няправільнага досьледу, які ахапіў масу дробных прадуктовых крам, дзе не вядзецца ніякае бухгальтэрыі і ня ўлічваецца рабочая сіла членаў сям'і. Больш пэўнымі зьяўляюцца веды буйных прадпрыемстваў.

### Гандлёвыя выдаткі

Пры 7-10 супрацоўніках 10,4%—з іх 4,8% пэнсіі і 2% арэнды.
Звыш 10 „ 10,4% — 6,7% „ і 3,3% „
Гірш у сваіх аглядах дае норму для пэнсіі 5-8 проц.

Спажывецкія аб'яднаньні цэнтральнага саюзу чамусьці ня ўжылі ніякіх спэцыяльных аглядаў чыста гандлёвых выдаткаў, і мы там скрозь спатыкаем іх аб'яднанымі з апэрацыйнымі выдаткамі. Гэта так званыя «агульныя гандлёвыя выдаткі» складалі для цэнтральнага саюзу за апошнія тры гады: 16,8 проц.—16,3 проц. і 15,11 проц. у 1927 г. Пры гэтым выдаткі на кіраваньне, пэнсію і г. д. складалі разам: 13,5 проц.—13,8 проц. і 12,7 проц. Хоць выдаткі гэтыя за апошнія гады і зьніжаюцца, яны яшчэ далёка не дасягнулі даваеннага ўзроўню: 12,45 проц. (1914 г.), 11,16 проц. (1910 г.) і 9,57 проц. (1903 год).

Досьлед непасрэдных гандлёвых выдаткаў быў вытвараны камітэтам досьледу, які ўстанавіў памер гэтых выдаткаў для нямецкіх спажывецкіх саюзаў у 1926 годзе ў 15,2 проц. Адпаведная лічба да году папярэдняга вайны 12,4 проц. (1913 г.), з іх 10,7 проц. на пэнсію. Калі разгледзім іх па групах, мы знойдзем, што дванаццаць найбольш буйных спажывецкіх

саюзаў, за зваротам звыш 10.000.000, маюць найбольш высокі памер выдаткаў у 16,3 проц. у той час, калі маса спажывецкіх саюзаў (788 проц ), са зваротам менш паўмільёна, выяўляюць больш нізкі ў 13, 7 проц.

Мы хочам тут зноў прывесьці лічбы па Дрэздэну, якія за апошні год пры 68.000 членаў і 162 разьмеркавальных пунктах і 1774 служачых мелі зварот у 47,7 млн. марак. Выдаткі яго разьмеркавальных пунктаў складалі:

| За апэрацыйны год | Выдаткі ў процантах | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Аг. сума | на пэнсію | на арэнду | на транспарт |
| 1924-25 . . . . . . . . | 10,85 | 6,22 | 0,80 | 1,56 |
| 1925-26 . . . . . . . . | 9,21 | 5,35 | 0,61 | 1,35 |
| 1926-27 . . . . . . . . | 8,58 | 4,65 | 0,61 | 1,39 |
| 1927-28 . . . . . . . . | 8,43 | 4,63 | 0,72 | 0,94 |

І тут мы маем перад сабой рэкордныя лічбы, якія, канечне, не павінны быць разгледжаны, як сярэдняя норма для спажывецкіх саюзаў. Пры гэтым не належыць выпушчаць, што тут па Дрэздэну справа ідзе аб непасрэдных выдатках па размеркавальных пунктах без цэнтральных складаў і без транспарту.

Вышэйпаданая квартальная статыстыка саксонскіх спажывецкіх саюзаў устанаўляе ў адносіне выдаткаў павялічэньне ў 0,7 проц., ня гледзячы на павялічэньне звароту ў 13,8 проц. Прагрэсыўныя ўзрастаньні выдаткаў саксонскі саюз тлумачыць выключна павялічэньнем выдаткаў на ўтрыманьне пэрсаналу пры зьмяншэньні яго працаздольнасьці, падкрэсьліваючы пры гэтым нармальнасьць апэрацыйных выдаткаў. Гэтыя абставіны кажуць аб тым, што ня ўсё добра, і абавязак саюзу ўжыць меры да своечасовага папярэджаньня.

Усе статыстыкі, якія займаюцца пытаньнямі „гандлёвых выдаткаў“, прыходзяць да таго вываду, што, чым большы горад, тым вышэй гандлёвыя выдаткі, што трэба тлумачыць узвышанымі акладамі і больш высокай арэндай.

Калі ў Нямеччыне не па прыватным гандлі і па каапэрацыі не маецца точных і аднародных ведаў аб гандлёвых выдатках, усё-ж увесь паданы матар'ял дазваляе зрабіць пэўныя вынікі. Ва ўсялякім выпадку мы бачым, што маем справу з такімі нормамі выдаткаў, што гаварыць аб рацыяналізаваным гандлі не даводзіцца. Спажывецкія таварыствы да вайны былі пастаўлены больш рацыяналізавана, што даказана сучасным больш высокімі процантнымі суадносінамі выдаткаў і зьмяншэньнем крамавых зваротаў і сярэдняе сумы, якая кладзецца на штатную адзінку гандлёвага апарату.

## Мерапрыемствы да пявялічэньня гаспадарчасьці ў гандлю

Тут раней ўсяго неабходна спыніцца на зьмяненьні характару прадпрыемстваў, ад маленькае крамы да гандлёвага дому, ад карлікавае вытворчасьці да буйнейшага прадпрыемства. Піанэрамі буйных гандлёвых прадпрыемстваў былі спажывецкія таварыствы, са сваёю сеткаю аддзяленьняў. Капітал пайшоў цяпер па гэтым жа шляху, арганізуючы ня толькі аддзяленьні для продажу вырабаў сваіх фабрык і ўласных сельска-гаспадарчых прадуктаў, але і ствараe спэцыяльныя гандлёвыя прадпрыемствы, пераходзячы нават да формы так званых „перасовачных крам“ і „Любая рэч“, па ўзору Вульварта ў Амэрыцы. Што тычыцца спажывецкіх таварыстваў, дык не падлягае сумніву, што яны сваю гістарычную ролю ў адносіне рацыяналізацыі, „наступальны“ ход зьмянілі ў апошні час „абараніцельным“. З часу актыўнага ўваходу буйнага капіталу ў гандлёвую сфэру яны па тэмпу разьвіцьця занялі першае месца.

Цікава і павучальна наглядаць, да якіх сродкаў прыбягае капітал, каб узмацніць свой „наступ“ і шляхам рацыяналізацыі забясьпечыць сабе

перамогу ў гэтай канкурэнтнай барацьбе. Пэрспэктывы спажывецкіх таварыстваў у гэтай барацьбе дрэнныя. Нават калі не падзяляць дурное ілюзіі, паступовага ўрастаньня спажывецкіх таварыстваў у капіталістычную гаспадарку, і з усёй рашучасьцю выступіць супроць сацыял-рэфарміцкага гаспадарчага дэмакратызму, мы ўсё-ж тае думкі, што для каапэрацыі застаецца шырокае поле дзейнасьці ў разьмеркаваньні прадуктаў. Тэаратычна магчымасьці гэтыя далёка ня вычарпаны. Практычна апошнія гады паказалі, што гэты адносны рост знайшоў свае межы, якія аднымі дзелавымі мерапрыемствамі не пераможаш. Мы стаім тут перад палітычнаю праблемаю разьвіцьця каапэрацыйнага руху ўва ўсіх капіталістычных краінах. Чым яскравей яна высоўваецца, тым большае значэньне пытаньні рацыяналізацыі набываюць для спажывецкіх таварыстваў.

Наколькі сур'ёзна ў гэтай адносіне становішча цэнтральнага саюзу нямецкіх спажывецкіх аб'яднаньняў, паказвае той факт, што на пасяджэньні праўленьня і камітэту (ЦК праўленьня) у канцы лістападу ў Гамбургу гэтае пытаньне было ўсебакова абгаворана. Было канстатавана, што выдаткі мясцовых спажывецкіх аб'яднаньняў значна павысіліся, што дае повад да сур'ёзных папярэджаньняў. Пры разглядзе пытаньня аб гаспадарчым становішчы нямецкіх спажывецкіх таварыстваў „скажэньне“ гандлёвае лініі было прадметам сур'ёзнае крытыкі.

Пры наліччы пастаяннага росту цэнтральнага саюзу, найбольш буйныя спажывецкія аб'яднаньні якога павялічылі ў трэцім квартале свой зварот з 236 млн. да 270 млн. марак (3-месячная статыстыка тычыцца 600 аб'яднаньняў з колькасьцю членаў звыш 400), працантае павялічэньне выдаткаў зьяўляецца характэрным сымптамам.

---

К. Л.

# Нямецкая каапэрацыя ў Польшчы

Сэсія нямецкага саюзу спажывецкіх таварыстваў у Польшчы і нямецкага саюзу сельска-гаспадарчых каапэратываў Заходняе Польшчы адчынілася 22 мая гэтага году. Справаздачны даклад рабіў доктар Сварт. З справаздачных матар'ялаў, якія былі прыведзены, відаць, што саюз пачаў сваю працу ў 1927 годзе пры 373 членах. З іх потым добраахвотна выступіла 4 члены, 8 былі выключаны, 8 спынілі сваё існаваньне па судовых прыгаворах, 3 далучыліся да іншых арганізацый. Уступіла новых членаў—15. Такім чынам, у саюзе зараз знаходзіцца 365 арганізацый, якія функцыянальна падзяляюцца на 166 пазыкова-ашчадных кас, 20 банкаў, 7 пазыковых саюзаў, 50 закупачна-збытавых таварыстваў, 47 малочных таварыстваў, 25 вінакураных заводаў і бульбасушыльных таварыстваў, 5 малацільных, 9 жывёлаводных таварыстваў, 23 розных іншых каапэратывы, 6 акцыянэрных т-ваў і 7 розных іншых таварыстваў.

За гэты час зроблена было 236 рэвізій, праведзена 29 сходаў, і быў узяты ўдзел у 20 пасяджэньнях міжсаюзных арганізацый, праведзена было 13 выступленьняў у розных мясцох.

Арганізаваныя ў студзені 1927 году курсы наведваліся ў Пазнані 60 чалавекамі, у Бромбэргу—26 чалавекамі. У гэтым годзе тыя-ж курсы наведвалі ў Пазнані—113 чал. і ў Бромбэргу—40 чал.

Саюз гаспадарчых каапэратываў налічвае цяпер 193 члены, з іх 99 крэдытных каапэратываў, 14 банкаў і пазыковых саюзаў, 26 малацільных таварыстваў, 17 вінакураных заводаў і гародна-сушыльных таварыстваў, 12 закупачна-збытавых таварыстваў, 13 розных іншых каапэрацыйных таварыстваў і 12 таварыстваў. Саюз меў 99 сходаў і ўтварыў 113 рэвізій.

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Рэзалюцыя

### пленуму савета Белсельсаюза аб дзейнасьці і становішчы сыстэмы сельска-гаспадарчае каапэрацыі за першыя тры кварталы 1927-28 г.

1. За справаздачны час нізавая сетка с.-г. аб'яднаньняў павялічылася з 1.273 каапэратываў да 2.747, або на 115 проц. Павялічэньне сеткі ішло, галоўным чынам, за лік вытворчых аб'яднаньняў: калгасы—101,9 проц., малочныя таварыствы—91,6 проц, машынныя таварыствы—27,4 проц., што гаворыць аб тым, што гэтыя віды аб'яднаньняў маюць глебу для свайго разьвіцьця. Разам з ростам вытворчых аб'яднаньняў трэба адзначыць нявыстарчальнае выкананьне пляну па арганізацыі сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў (намечаны плян выкананьня толькі на 45,6 проц.)

2. Пры агульным росьце каапэраваньня сялянскіх гаспадарак у памеры 9,83 проц, апошняе ішло ў асноўным за лік с.-г. крэдытных таварыстваў (6,4 проц.) і недастакова за лік вытворчых аб'яднаньняў (малочныя таварыствы)—1,58 проц., калгасы—0,28 проц, машынныя таварыствы—0,35 проц

3. Па гаспадарчай дзейнасьці асобных зьвенчакоў сыстэмы трэба адзначыць наступныя моманты:

а) капіталы с.-г. крэдытных таварыстваў павялічыліся на 60 проц. і пераважна за лік уласных і паявых капіталаў;

б) уклады с.-г. крэдытных таварыстваў павялічыліся з 609.300 р. да 1.196.500 р. (павялічэньне на 96,4 проц.)

в) звароты с.-г. крэдытных таварыстваў па пазычковых і дастаўча-збытавых апэрацыях у параўнаньні з зваротамі мінулага году за цэлы год павялічыліся на 58,1 проц.

г) пратэрміноўка пазык у гэтым годзе супроць мінулага году значна паменшылася і роўна 4,4 проц. сумы выдадзеных пазык замест 7,9 проц. у мінулым годзе;

д) сувязь с.-г. крэдытных таварыстваў са сваімі саюзамі па закупцы дастаўчых і збыце зарыхтаваных тавараў павялічылася і складае: па дастаўцы—65,2 проц., замест 54,1 проц, і па збыце 54,8 проц. замест 46 проц. у мінулым годзе.

е) адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі ў адносінах да звароту ў гэтым годзе; паменшыліся супроць выдаткаў зробленых у мінулым годзе, напрыклад:

1. Па с.-г. крэдытных таварыс вах складаюць 6,09 проц. замест 10,44 проц.
2. Па сельсаюзах складаюць 4,8 проц. замест 10.46 проц.
3. Па Белсельсаюзу складаюць 3,78 проц. замест 9,87 проц.

ж) гаспадарчая увязь акрсельсаюзу з сваімі членамі ўзрасла па дастаўцы да 85 проц. з 73,4 проц. і па збыце да 83,8 проц. з 75.5 проц.

Разам з адзначанымі станоўчымі бакамі працы трэба ўказаць і на адмоўныя, г. зн.:

1. На працу па каапэраваньню беднаты, асабліва вытворчымі аб'яднаньнямі зьвярталася недастаткова ўвагі, дзякуючы чаму ў гэтай працы ня было цьвёрдае плянавасьці, і тэрміны, вызначаныя на гэту мэту вытворчым аб'яднаньням, скарыстоўваюцца несваячасова.

Разам з гэтым трэба адзначыць, што ёсьць выпадкі каапэраваньня за лік фонду і серадняцкай часткі насельніцтва, а праверка, зробленая ў гэтым напрамку, недастатковая.

2. Да гэтага часу ў працы с.-г. крэдытных таварыстваў ёсьць выпадкі абяртаньня д ўгатэрміновых пазык у кароткатэрміновыя.

3. Сувязь с.-г. крэдытных таварыстваў па збыце зарыхтаванае прадукцыі праз свае саюзы ў размеры 54,8 проц. яшчэ далёка недастатко а. Ня гледзячы на знанныя памяшэньні выдаткаў да звароту с-г. крэдытных таварыстваў супроць мінулага году, трэба адзначыць, што яны яшчэ па многіх таварах досыць высокія ў абсалютных лічбах, дзякуючы чаму дырэктыва аб памяншэньні выдаткаў на 20 проц. ня выканана.

4. Пастанова папярэдняга пленуму савета аб зьмяншэньні ўдзельнае вагі заможнае часткі пайшчыкаў ў складзе малочных і машынных таварыстваў за лік каапэраваньня бядняцка-серадняцкага насельніцтва выконваецца ня зусім пасьпяхова.

5. Іншыя віды вытворчых аб'яднаньняў (садова-гародныя, машынныя і пчалярныя таварыствы) да гэтага часу не зьяўляюцца яшчэ масавымі аб'яднаньнямі, а носяць замкнуты характар. Гаспадарчая сувязь гэтых аб'яднаньняў з сваімі саюзамі недастатковая.

6. Недастатковае арганізацыйнае абслугоўваньне нізавых аб'яднаньняў асабліва вытворчых відаў, што тлумачыцца недахопам інструктарскага апарату. Наяўны інструктарскі апарат недастатковы кваліфікаваны.

7. Недастатковая арганізаванасьць дастаўчых с.-г. машын, запасных частак, смазачнага і гаручага матар'ялу. Адсутнасьць тэхнічнае дапамогі машынакарыстальнікам і амаль поўнае адсутнічаньне як у саюзах, такі ў нізовай сетцы кваліфікаваных працаўнікоў па дастаўцы. Справа па забесьпячэньню палепшаным насеньнем пастаўлена нездавальняюча, і на гэтыя пытаньні зьвяртаецца недастатковая ўвага.

8. Збыт загатоўленае прадукцыі наладжаны ня зусім здавальняюча, дзякуючы чаму прадукцыя пераходзіць ня поўнасьцю у цэнтралізаваным парадку. Тлумачыцца гэта, з аднаго боку, адсутнасьцю недастатковае дысцыпіны ў сыстэме, а з другога, тым, што да гэтага часу загатоўчы апарат пабудаваны і падабраны ня зусім здавальняюча.

На падставе адзначаных момантаў далейшае арганізацыйна-гаспадарчае разьвіцьцё сыстэмы павінна ісьці па шляху ажыцьцяўленьня наступных мерапрыемстваў.

## А. Па арганізацыйнай частцы

1. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на поўнае правядзеньне ў жыцьцё пастановы папярэдняга пленуму савета аб паляпшэньні складу пайшчыкаў у вытворчых аб'яднаньнях і па іх сацыяльна-маёмасным стане. Узмацніць тэмп каапэраваньня бядняцка-серадняцкае часткі насельніцтва, асабліва праз вытворчыя аб'яднаньні. Даручаецца праўленьню Белсельсаюза распрацаваць плян каапэраваньня бядняцкіх гаспадарак, узгадніўшы яго з цэнтральным камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

2. Павысіць актыўнасьць і самадзейнасьць членскае масы і зьвярнуць належную ўвагу пытаньню ўцягненьня і высоўваньня сялянскага актыву жанчын і моладзі. Разам з гэтым трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на адхіленьне адмоўных бакоў у працы сыстэмы, шляхам разгортваньня самакрытыкі, праводзячы яе сыстэматычна на розных сходах праз пастаноўку дакладаў аб працы сыстэмы.

3. Уся арганізацыйная праца павінна праходзіць пад лёзунгам максымальнага садзейнічаньня вырашэньню асноўных гаспадарчых задач сыстэмы. Усе асобныя элемэнты арганізацыйнае працы павінны мець на мэце рацыяналізацыю гаспадарчае працы, дзеля чаго трэба ва ўсіх саюзах мець большую ўвязку аргаддзелу з апэрацыйнымі аддзеламі, а таксама пры інструктаваньні нізоўкі зьвяртаць большую ўвагу на гаспадарчы інструктаж.

4. У мэтах больш шпаркага каапэраваньня насельніцтва і належнага яго абслугоўваньня у першым квартале 1928-29 г. безадкладна закончыць намечаную арганізацыю ў 1927-28 г. с.-г. крэдытных таварыстваў, а таксама колькасьць таварыстваў, намечаную да арганізацыі ў 1928-29 апэр. годзе і прыпадаючую на 1 квартал.

5. Тэмп зьбіраньня паявых ўзносаў у сыстэме с-г. каапэрацыі недастатковы, чаму трэба ўсім звеньням сыстэмы зьвярнуць на гэта належную ўвагу з тым, каб у будучым годзе поўнасьцю выканаць кантрольныя лічбы па зьбіраньню паявых і спэцыяльных узносаў.

Праўленьню Белкаапсаюзу распрацаваць пытаньне капіталанакапленьня ў сыстэме, у якім прадугледзіць заахвочваючыя меры да тых пайшчыкаў, якія поўнасьцю аплацілі ўзносы, прадугледзіўшы ільготы для бядняцкіх гаспадарак.

6. Адзначаючы памяншэньне пратэрмінаваных пазык у с.-г. крэдытных таварыствах, павесьці больш напружаную працу да іх ліквідацыі, разам з гэтым катэгарычна зьнішчыць ператварэньне доўгатэрміновых пазык у кароткатэрміновыя пры выдачы іх пазычальнікам. У тых выпадках, калі гэта ня будзе зьнішчана, кіраўнікоў таварыства прыцягваць да адказнасьці.

7. У правядзеньні с.-г. крэдытнымі таварыствамі дастаўча-нарыхтоўчай працы трэба больш рашуча пераходзіць да камісійна-пасрэдніцкае працы. Адначасова саюзам паставіць сваю апэрацыйную працу так, каб поўнасьцю ахапіць таваразварот сеткі, для чаго трэба ўзмацніць унутрыкаапэрацыйную дысцыпліну.

8. У бліжэйшы тэрмін закончыць рэарганізацыю с.-г. таварыстваў бяз крэдытных функцый і канчаткова перадаць саматужна-прамысловыя аб'яднаньні саматужна-прамысловай каапэрацыі.

9. Узмацніць арганізацыйнае абслугоўваньне с-г. аб'яднаньняў, асабліва вытворчых відаў. Даручыць праўленьню Белкаапсаюза паставіць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб фактычным замацаваньні ў кожным раёне аднаго агранома, за лік зямельных органаў, для абслугоўваньня вытворчых аб'яднаньняў с.-г. каапэрацыі з тым, каб гэтыя аграномы працавалі па ўказаньню акрсельсаюзаў.

10. Адзначаючы як станоўчы вынік у правядзеньні ў гэтым годзе курсаў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы працаўнікоў сеткі, даручаецца праўленьню Белкаапсаюза правесьці такія курсы і ў наступным годзе для працаўнікоў наступных аб'яднаньняў: с.-г. крэдытных таварыстваў, калгасаў, малочных і птушкаводных таварыстваў.

11. Адзначаючы, што каапэраваньне насельніцтва праз малочныя таварыствы, а таксама занос малака з боку сялянства ішло паслабленым тэмпам, дзякуючы таму, што ня было дастаткова спрыяючае эканамічнае выгады для сялянства, якая не магла быць належным чынам створана, дзякуючы недастатковай колькасьці дастаўкі моцных кармоў і жорсткага падыходу з боку рэгулюючых органаў, чаму даручаецца праўленьню Белсельсаюза паставіць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб стварэньні ўмоў, пры якіх можа разгарнуцца праца малочнае каапэрацыі.

12. Безадкладна правесьці працу па ўзбуйненьню існуючых малочных таварыстваў. Рашуча адмовіцца ад пабудовы саматужнага тыпу масларобча-сыраваранных заводаў, а работу гэту праводзіць па распрацаванаму пляну.

13. Зьвярнуць належную ўвагу на абслугоўваньне машынных таварыстваў. Арганізацыю гэтых таварыстваў праводзіць амаль выключна ў земляўпарадкаваных пасёлках. Праўленьню Белсельсаюза распрацаваць пытаньне аб парадку спагнаньня або паявых, або іншых узносаў.

14. У мэтах лепшага арганізацыйнага абслугоўваньня сеткі з боку саюзаў трэба ўжыць рашучыя крокі да ўзьняцьця кваліфікацыі інструктарскага апарату, шляхам арганізацыі адпаведных курсаў. Каб спыніць цякучасьць інструктарскага апарату, што надта дрэнна адбіваецца на абслугоўваньні сеткі, трэба стварыць у саюзах адпаведныя ўмовы для працы інструктароў.

Трэба ва ўсю інструктарскую працу ўвесьці плянавы пачатак і канчаткова зьнішчыць загрузку інструктарскага пэрсаналу выкананьнем працы, не адпавядаючай яго абавязкам.

15. Трэба зьвярнуць належную ўвагу на правядзеньне па ўсіх зьвеньнях сыстэмы каапэрацыйнае асьветы. Для больш практычнага пасоўваньня гэтае працы трэба правесьці ў жыцьцё пастанову папярэдняй сэсіі савету аб запрашэньні на працу інструктара-культурніка.

16. У мэтых набліжэньня працы Віцебскага каапэрацыйнага тэхнікуму да інтарэсаў і запатрабаваньняў с.-г. каапэрацыі даручаецца праўленьню саюза паставіць пытаньне перад Наркамасьветы аб рэарганізацыі праграмы і навучальных пляноў тэхнікуму з тым, каб ён выпускаў ня толькі рахункаводных працаўнікоў, а і працаўнікоў па абслугоўваньні гаспадарчых бакоў дзейнасьці сыстэмы.

Даручаецца праўленьню Белсельсаюза абгаварыць пытаньне аб магчымасьці асыгнаваньня тэхнікуму сродкаў на выдачу стыпэндый студэнтам, камандыраваным сыстэмай с.-г. каапэрацыі.

17. Адзначаючы выпадкі скажэньня клясавай лініі, асабліва пры выдачы крэдытаў, і недастатковы нагляд за гэтым з боку інструктароў, якія праводзяць абсьледаваньне або рэвізію, даручаецца праўленчаскім органам, рэўкамісіям і інструктарам саюзаў зьвярнуць на гэта асаблівую ўвагу. Вінаватых у скажэньні клясавае лініі працягваць да судовае адказнасьці.

18. Даручаецца праўленьню Белсельсаюза ў першым паўгодзьдзі 1928-29 апэрацыйнага году выканаць пастанову папярэдняй сэсіі саветаў аб наданьні Гомельскаму саюзу крэдытных апэрацый.

19. Адзначаючы, што работа рэўкамісій па ўсіх звенчаках сыстэмы праводзіцца да гэтага часу вельмі слаба, даручаецца праўленьню Белсельсаюза зьвярнуць на гэта належную ўвагу. У выпадках калі апошнія будуць слаба адносіцца да сваіх абавязкаў, прыцягнуць іх да адказнасьці.

## Б. Па апэрацыйнай частцы

20. Правесьці рацыяналізацыю складзкае гаспадарчае сеткі шляхам пабудовы гуртавых б з дастатковае ёмкасьці і прыстасаваных да хаваньня машын, насеньня, мэталяў і інш. рэчаў. Даручаецца праўленьню Белсельсаюза распрацаваць падрабязны плян патрэбнае колькасьці такіх складаў і ўзбудзіць хадайніцтва аб водпуску сродкаў.

21. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на пастаноўку працы па здавальненьні насельніцтва палепшаным насеньнем, штучным угнаеньнем і іншымі сродкамі прамысловасьці, патрэбнымі ў сельска-гаспадарчай вытворчасьці, для чаго трэба заняцца падборам адпаведных працаўнікоў і іх падрыхтоўкай.

22. У мэтах канцэнтрацыі дастаўкі і скарачэньня накладных выдаткаў, практыку транзітнага завозу пашырыць з тым, каб к канцу будучага году транзітны завоз давесьці да 75 проц.

23. Павесьці рашучую працу па поўным ахваце саюзамі збытавых апэрацый, якія праводзяцца нізовою сеткаю, для чаго трэба збудаваць адпаведны апарат у саюзах як па колькасьці, так і якасьці. Праўленьню Белсельсаюзу ў бліжэйшы тэрмін распрацаваць штат для кожнага саюзу.

24. Для пашырэньні падрыхтоўчае працы трэба ўцягнуць у яе правядзеньне актыў пайшчыкаў. Для падрыхтоўкі працаўнікоў па гэтай галіне працы пажадана правесьці курсы, праз якія прапусьціць актыў пайшчыкаў.

25. Разьмежаваньне функцый спажывецкае каапэрацыі ў галіне дастаўкі сродкаў прамысловасьці, патрэбных у с.-г. вытворчасьці. да гэтага часу праводзіцца вельмі слаба, чаму даручаецца праўленьню Белсельсаюза паставіць гэта пытаньне перад адпаведнымі органамі на канчатковае вырашэньне.

26. Улічваючы важнасьць экспарту, як аднаго з галоўных фактараў ў разьвіцьці нашае дзяржавы, працу па падрыхтоўцы экспартнае сыравіны і прадуктаў трэба паглыбіць. Непасрэдны выхад сыстэмы на замежны рынак прызнаць мэтазгодным, дзеля чаго трэба працу па гэтых апэрацыях паставіць так, каб належным чынам да яе падрыхтавацца. Маючы на ўвазе, што непасрэднае правядзеньне гэтых апэрацый сыстэмай патрабуе значнае колькасьці сваіх капіталаў і што ў сучасны момант сыстэма іх мае нявыстарчальна, ў 1928-29 апэрацыйным годзе. непасрэдны выхад сыстэмы на замежны рынак кожны раз абгаварваць праўленьню Белсельсаюза.

# Рэзалюцыя

## гандлёвай нарады пры Белсельсаюзе па дакладу тав. Талапіла аб забясьпечваючых і збытавых апэрацыях сельскагаспадарчай каапэрацыі Беларусі

Заслухаўшы даклад члена праўленьня Белсельсаюза Х. І. Талапіла, гандлёвая нарада пры Белсельсаюзе канстатуе, што ўзяты праўленьнем Белсельсаюза ў 1927-28 г. рашучы курс на пашырэньне і паглыбленьне сувязі ўнутры сыстэмы ў забясьпечваючых і збытавых апэрацыях зусім сябе апраўдаў: вынікам узмацненьня ўнутрыкаапэрацыйнай сувязі зьявілася:

1) значнае павялічэньне зваротаў як па забясьпечваючых, так і па збытавых апэрацыях (па справаздачных даных за першае паўгодзьдзе на 47 проц. супроць звароту за ўвесь 1926-27 г.), чаму ўдзельная вага сыстэмы с.-г. каапэрацыі ў таваразвароце БССР узрасла па забесьпячэньню асноўнымі сродкамі вытворчасьці сельскае гаспадаркі да 68 проц. і па збыце прадуктаў сельскае гаспадаркі ў сярэднім да 40 проц.;

2) у выніку павялічэньня зваротаў сыстэмы і ўмацаваньня ўнутры-каапэрацыйнай сувязі дасягнута рэнтабэльнасьць у гаспадарчай рабоце, а таксама зьніжаны гандлёвыя і накладныя выдаткі ў сярэднім па сыстэме на 3 проц.

Адначасова нарада адзначае, што, ня гледзячы на дасягнутыя сыстэмай с.-г. каапэрацыі посьпехі, ёсьць яшчэ і цэлы рад дэфэктаў як агульнага характару—нявыстарчальнае плянаваньне работы, так і асабліва нездавальняючае становішча самое тэхнікі работы, што зьмяншае эфэктыўнасьць вынікаў усяе гаспадарчае дзейнасьці сыстэмы. У прыватнасьці, па збыце і забесьпячэньню трэба зазначыць на наступныя недахопы:

### а) Па забесьпячэньню

1. Амаль поўная адсутнасьць ва ўсіх зьвенчаках сыстэмы прыстасаваных складаў для адпаведнага захаваньня сродкаў с.-г. вытворчасьці, раскіданасьць гэтых складаў, дарагоўля іх утрыманьня.

2. Нявыстарчальная арганізаванасьць забесьпячэньня машынамі, запаснымі часткамі, смазачнымі і гаручымі матар'яламі, адсутнась якой бы там ні было тэхнічнае дапамогі машынакарыстальнікам, амаль поўная адсутнасьць у саюзе і нізоўцы кваліфікаваных работнікаў у апараце па забесьпячэньню (машынаведаў, манцёраў).

3. Нездавальняюча пастаўлена справа забесьпячэньня насельнем і не надаецца ёй належнага значэньня ў сыстэме. З-за адсутнасьці кваліфікаваных работнікаў па гандлю насельнем, у забесьпячэньні якімі с.-г. кааперацыя займае вельмі высокую ўдзельную вагу (85—90 проц.), дрэнна пастаўлены водпуск насеньня, які выклікае часта непаразуменьні з пакупцамі.

4. Не зварочваецца таксама ўвагі на забесьпячэньне сродкамі багацьбы са шкоднікамі. Наогул агратэхнічны бок у забесьпячальнай рабоце вельмі нязначны, што зьяўляецца зусім недапушчальным наогул і асабліва ва ўмовах індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі і перабудовы яе на вышэйшыя тэхнічныя пачаткі.

### б) Па збыце

1. Зусім нездавальняюча ўцягнута нізоўка ў работу—у сярэднім да 60 проц. ад агульнага ліку крэдытных таварыстваў.

2. Ня ўцягнуты актывістыя-пайшчыкі ў загатоўчую работу, з прычыны чаго сыстэма прымушана карыстацца ў пераважнай большасьці былым прыватным гандлёвым апаратам, у некаторых выпадках нават не парваўшы і да сучаснага моманту сувязі з прыватным капіталам.

3. Нявыстарчальна наладжаны збыт па сыстэме, што вынікае з недысцыплінаванасьці сыстэмы, з аднаго боку, з другога, некаторыя саюзы не змаглі забясьпечыць адпаведнага апэрацыйнага абслугоўваньня нізоўкі (асабліва Магілеўскі) і стварыць эканамічна выгадныя ўмовы работы праз саюзы.

4. Дрэнна наладжана сартыроўка і прыёмка тавараў саюзамі ад нізоўкі, а нізоўкі ад насельніцтва, з прычыны чаго маюць месца рэклямацыі пры здачы тавараў, асабліва сырцу, што прыносіць страты сыстэме.

5. Нездавальняюча пастаўлена нагляданьне за кан'юнктурай рынку і ўзаемная інфармацыя, а таксама зусім недапушчальна абстаіць справа пастаноўкі вучоту і прысылкі апэрацыйных вестак.

6. Слаба ахоплены рынак па загатоўцы другарадных відаў сырцу, як: ягады, грыбы, жолудзі, лектравы, шэрсьць, шчаціна, волас, рыба, ракі і г. д.

На падставе ўсяго вышэйзазначанага гандлёвая нарада лічыць патрэбным у далейшым для зьнішчэньня вышэйадзначаных недахопаў правесьці ніжэйпаданыя мерапрыемствы:

## Па забесьпячэньню

1. Рацыяналізаваць складзкую гаспадарку шляхам перабудовы гуртавых складаў (баз), выстарчальнае ёмкасьці і зусім прыстасаваных для хаваньня машын, запасных частак да іх, насеньня, мэталяў, мэталявырабаў і інш., прызначаных для забесьпячэньня таварыстваў, транзітны завоз якім немагчымы, і для тых тавараў, якія патрабуюць унутры-вагоннага разьмеркаваньня.

2. У мэтах лепшага забесьпячэньня пэрыфэрыі трэба мець буйна-раённыя базы пры таварыствах, разьмешчаных у цэнтрах эканамічнага цягаценьня насельніцтва і з удобнымі шляхамі зн сін Такіх раённых складаў у акрузе павінна быць 3—4.

3. З прычыны таго, што пры існуючым фінансавым становішчы сыстэмы ў адзін год плян арганізацыі складзкае гаспадаркі выканаць нельга, дык таму будаўніцтва складаў раскласьці на тры бліжэйшых гады і ўключыць яго фінансаваньне часткова па дзяржбюджэце, часткова па доўгатэрміноваму крэдыту.

4. Зьвярнуць увагу на папаўненьне сыстэмы кваліфікаванымі працаўнікамі-забесьпячэнцамі, якія добра ведаюць асноўныя групы забесьпячэнскіх тавараў (с.-г. машыны, насеньне, угнаеньне і г. д.) і якія могуць унесьці арганізацыю тэхнікі забесьпячэньня гэтымі групамі тавараў.

5. У мэтах максымальнага абслугоўваньня с.-г. машын і прылад, як адпускаемых з складаў, так і ўжо працуючых у гаспадарках, трэба арганізаваць рэспубліканскі і акруговыя склады запасных частак і належным тэхнічным пэрсаналам (манцёры с.-г. машын).

6. Зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на належную пастаноўку гандлю насеньнем, мінэральнымі ўгнаеньнямі, сродкамі барацьбы са шкоднікамі, для чаго трэба мець у рабочым складзкім апараце кваліфікаваных прадаўцоў, добра ведаючых тэхніку продажу насеньня, угнаеньняў і прылад і сродкі барацьбы са шкоднікамі.

7. У мэтах канцэнтрацыі забесьпячэньня і скарачэньня накладных выдаткаў, транзітны плянавы завоз асноўных груп тавараў с.-г вытворчасьці, які намеціўся, паглыбіць, давёўшы процант транзітнага завозу па таварах ня менш 76 проц.

8. Даручыць Белсельсаюзу дабівацца перад адпаведнымі арганізацыямі ўзмацненьня завозу сельска-гаспадарчых тавараў.

9. Нарада знаходзіць нямэтазгодным, што сельскімі таварамі гандлюе спажывецкая каапэрацыя.

10. Белсельсаюзу пры заключэньні генэральных дагавораў зьвярнуць увагу на разьліковую частку і дэцэнтралізаваць яе.

## Па збыце

1. Трэба павесьці рашучую барацьбу за ахоп сырцавога і прадуктовага сельскага рынку наогул, асабліва па другарадных прадуктах, з тым, каб абслужыць максымальна ня толькі пайшчыкаў, але і яшчэ некаапэраваную частку, і тым стварыць спрыяючую абстаноўку для каапэраваньня.

2. Рашуча адмовіцца ва ўсіх зьвенчаках ад некаапэрацыйнага збыту з тым, каб у бліжэйшы час давесьці збыт па сыстэме да 100 проц.

3. Трэба ўцягнуць у бліжэйшы час у збытавую работу ўсе 100 проц. крэдытных таварыстваў і ўзмацніць тэмп уцягваньня ў загатоўчую работу спэцыяльных таварыстваў і арцеляй.

4. Рашуча ўцягваць у загатоўчую работу актыў пайшчыкаў, як шляхам найму, так і шырока наладжана а праз іх падворнага збору на камісійных пачатках. Гэтае мерапрыемства дасьць ня толькі хуткі эфэкт у павялічэньні загатовак, але. галоўнае, палепшыць сацыяльны склад працаўнікоў і створыць пастаянны моцны кадр кваліфікаваных працаўнікоў-загатоўшчыкаў, сартыроўшчыкаў, упакоўшчыкаў і г. д.

5. Неадкладна-ж і рашуча палепшыць тэхніку загатоўкі і першапачатковай апрацоўкі сырцу, сартыроўкі і упакоўкі. Строга прытрымлівацца кандыцыі і лімітных цэн у ажыцьцяўленьні гэтае работы. У бліжэйшы час палепшыць колькасны і якасны склад загатоўчага апарату саюзаў і Белсельсаюза, давёўшы яго да такога становішча, каб ён мог ня толькі выконваць тэхніку работы сам, але і інструктаваць ніжэйшыя зьвенчакі. Толькі пры такім становішчы гэтых двух зьвенчакоў апарату магчыма сур'ёзнае паляпшэньне работы і яе тэхнікі.

6. Побач з пашырэньнем і паляпшэньнем збытавой работы ў нашай сыстэме трэба дабівацца перад плянуючымі і рэгулюючымі ўрадавымі органамі як павялічэньня ўдзельнае вагі на рынку загатовак у рэспубліканскім пляне, так і паляпшэньня ўмоў загатовак, маючы на ўвазе, што ў БССР да гэтага часу Наркамгандлем ні ога ня зроблена для нашай сыстэмы ў сэнсе паляпшэньня ўмоў работы, паставіўшы пытаньне перад адпаведнымі органамі з мэтай паскарэньня выкананьня гэтай работы.

7. Саюзы паві ны рашуча адмовіцца ад разрозьненага тавараабароту як па збыце, так і па забясьпячэньню, перадаўшы гэтую работу прыгарадным таварыствам, усю сваю ўвагу і сілы сканцэнтраваць на кіраўніцтве і абслугоўваньні апэрацыйнай работай нізоўкі.

8. Улічваючы важнасьць экспарту, як аднаго з галоўнейшых фактараў у развіцьці нашае краіны, лічыць работу па загатоўках экспартнага сырцу і прадуктаў, як адну з адказнейшых работ, якія павінны быць разгорнуты ў шырыню і глыбіню ў самы кароткі час.

9. Прынцып узаемаадносін унутры сыстэмы, пакладзены ў аснову ў мінулым годзе, вясьці забясьпечальна-збытавую работу ў цэнтралізаваным парадку, на падставе генэральных дагавароў, як зусім сябе апраўдаўшы, замацаваць, толькі паглыбіўшы і пашырыўшы іх у сэнсе павялічэньня кантынгенту забясьпечваюча-збытавых тавараў, па якім работа павінна вясьціся у цэнтралізаваным парадку.

10. Практыку работы з каапцэнтрамі РСФСР на пачатках далявых дагавораў лічыць удалай і адпавядаючай агульным інтарэсам, з прычыны чаго лічыць патрэбным захаваць гэтую практыку і на будучы год.

11. Прасіць праўленьне Белсельсаюза на падставе плянаў акрсельсаюзаў заключыць генэральны дагавор на завоз жывёлы з-за меж Беларусі.

12. З боку Белсельсаюзу ўзмацніць інструктаваньне па загатоўках у асаблівасьці па другарадных відах.

13. Белсельсаюзу распрацаваць пытаньне аб падрыхтоўцы працаўнікоў і мець бронь у апараце.

*Адказны рэдактар А. ФРИД*

*Выдавец—Цэнтральны Каапэрацыйны Савет БССР*

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1929 ГОД
## НА СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧУЮ ЧАСОПІСЬ

# „ПЛУГ“

Часопісь ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме азнаёміць наша сялянства з працамі дасьледчых станцый, працаю вучастковых аграномаў і зямельных працаўнікоў, дасягненьнямі сялян дасьледчыкаў і гаспадароў-практыкаў, навінамі агранамічнай навукі і г. д.

Часопісь зьвязана з працаю інстытуту сялян-дасьледчыкаў і з практычнаю працай сялян.

**У часопісі прымаюць удзел прафэсары, настаўнікі і навуковыя працаўнікі Беларускай С.-Г. Акадэміі, прафэсары і навуковыя працаўнікі Беларускага Навукова - Дасьледчага Інстытуту імя У. І. Леніна, спэцыялістыя Наркамзему БССР і інш.**

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На 3 м-цы . . . — р. 60 к. | На год . . . . 2 р. 20 к. |
| На 9 м-цаў . . . 1 р. 10 к. | Паасобны нумар — р. 20 к. |

Гадавыя падпісчыкі „ПЛУГА“ за 1929 год атрымліваюць у дадатак прэмію—2 кніжкі па сельскай гаспадарцы, а паўгадавыя—1 кніжку.

Тыя-ж, хто ў 1928 г. ня выпісваў „ПЛУГА“, пры падпісцы праз рэдакцыю на ўвесь 1929 год, па іх згодзе, могуць атрымаць у прэмію 6 кніжак, якія былі прэміяй у 1928 годзе.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: непасрэдна ў рэдакцыі „ПЛУГА“, на кожнай пошце, у кожнага лістаносца, у кожнага агранома і ў кожнай кнігарні.

---

РЭДАКЦЫЯЙ ЧАСОПІСІ „ПЛУГ“ ПРАВОДЗІЦЦА

## КОНКУРС НА ЛЕПШАГА ЗБОРШЧЫКА ПАДПІСКІ

**НА „ПЛУГ“ 1929 г.** Той, хто зьбярэ больш падпісак, атрымае прэмію.

Прэміі вызначаны як грашовыя, так і рознымі сельска гаспадарчымі машынамі, прыладамі, насеньнем, штучным угнаеньнем, прышчэпамі і інш.

КОЛЬКАСЬЦЬ І ПАМЕР ГРАШОВЫХ ПРЭМІЙ:

| | |
|---|---|
| І. Адна на суму . . . . . . 50 р. | ІІІ. 8 па 10 руб. на суму . 80 р. |
| ІІ. 4 па 15 руб. на суму . . 60 „ | ІV. 12 „ 5 „ „ „ . 60 „ |

Усяго на суму грашовых прэмій . 250 р.

Прэміі рознымі сельска-гаспадарчымі рэчамі: плугоў—10, 1000 шт. прышчэп, асыпнікаў—5.

Прэміі выдаюцца зборшчыкам, якія дасылаюць падпіску непасрэдна ў рэдакцыю „ПЛУГ“, па адрасу: Менск, Савецкая, 71, НКЗ, рэдакцыя „ПЛУГ“.

Кожны зборшчык атрымлівае 10 проц. ад сабранай сумы падпіскі, незалежна атрымае ён прэмію, ці не.

Паміж хат-чытальняў, кіраўнікі і сябры якіх будуць прымаць удзел у распаўсюджваньні падпіскі, будзе разьмяркована літаратура на 100 руб.

---

Падпісацца на часопісь „ПЛУГ“ можна разам з газэтай „Беларуская Вёска“. Часопісь „ПЛУГ“ і „Беларуская Вёска“ каштуюць на месяц 30 к., а на год 3 р. 60 к.

Адрас газэты: „Беларуская Вёска“, Менск, Савецкая, 63.

Гадавыя камплекты „ПЛУГА“ за 1927-28 г. можна выпісаць за 50 проц. падпіснае платы (1 р. 10 к. у год). Заказы на старыя №№ „ПЛУГА“ і інш. выданьні НКЗ накіроўваць: Менск, Савецкая, 71, Выдавецтва НКЗ.

**ЦАНА 40 КАП.**

**Бюлетэнь каапэрацыйных цэнтраў Беларусі, Белсельбанку і Ўсекабанку**

# „ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ“

**„ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ“** зьяўляецца адзіным друкованым органам **усіх відаў каапэрацыі Беларусі.**

**„ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ“** **зьмяшчае кіраўнічы, інструкцыйны, даведачна-юрыдычны і інфармацыйны матар'ялы,** якія асьвятляюць дзейнасьць усіх відаў беларускае каапэрацыі.

**„ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ“** мае наступную праграму: 1) кіраўнічыя артыкулы па асноўных пытаньнях усіх сыстэм каапэрацыі БССР; 2) каапэрацыйная практыка па розных чарговых пытаньнях каапбудаўніцтва; 3) інфармацыя аб працы ўсіх каапцэнтраў, акруговых каапарганізацый і ЦРК; 4) агляд становішча паасобных каапэрацыйных сыстэм па акругах; 5) афіцыйна-юрыдычны аддзел.

**„ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ“** зьяўляецца настольным кіраўніком і пільна патрэбным даведнікам для кожнага каапэрацыйнага працаўніка.

**„ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ“** выходзіць 1 раз у месяц і каштуе: на 1 мес. - 40 к., 3 мес.—1 р. 20 к., 6 мес.—2 р. 25 к., 12 мес.—4 р. 25 к.

## ПАДПІСКА НА „ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ“

**прыймаецца ва ўсіх каапэрацыйных арганізацыях, усімі інструктарамі, а таксама ўсімі паштовымі ўстановамі Беларусі.**

**Рэдакцыя: Менск, Савецкая, 43. Бяг. рах. ... 117.**